ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

3 красавіка 1998 г. | № 14/3942 | Кошт 4 000 руб.







Наша музычнае жыццё пабагацела яшчэ на адно свята — "Спяваем з аркестрам..." Новы фестываль — Беларускі фестываль дзіцячай эстраднай песні — зладкаваны па ініцыятыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра краіны на чале з маэстра Міхаілам Фінбергам, падтрымалі Міністэрства культуры, Мінгарвыканкам, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія і праграма "Тэле-бом".

Два сакавіцкія дні ў Вялікай зале сталічнай філармоніі было людна і весела: пад "жывы" акампанемент аркестра, у суправаджэнні ўзорнага хору "Фэст" мінскай СШ N 201 (кіраўнік — Элеанора Старажук) спявалі, і толькі па-беларуску, прадстаўнікі ўсіх абласцей і сталіцы Беларусі. А каб пачувалі яны сябе роўнымі сярод роўных і перажывалі толькі за мастацтва, арганізатары прыдумалі для ўсіх простыя і зручныя "канцэртныя строі": джынсікі, красовачкі ды рознакаляровыя футболкі.

Бескампраміснае журы, у складзе якога былі юныя музыканты ды аматары спеваў, ацэньвала кожнае выступленне паводле пяцібальнай сістэмы. Але незалежна ад колькасці "пяцёрак" ці "троек" усе ўдзельнікі першага, конкурснага філарманічнага вечара патрапілі ў праграму гала-канцэрта. І наогул, арганізатары фестывалю вырашылі не падзяляць яго ўдзельнікаў на лідэраў і аўтсайдэраў: усе дзеці, якім пашчасціла паспяваць з аркестрам, атрымалі магчымасць зрабіць гэта яшчэ раз. У чэрвені, падчас Нацыянальнага фестывалю песні ды паэзіі "Маладзечна-98".

**С. Б.**

*Фота А. ПРУПАСА*



АНКЕТА

# Што з'езд чарговы нам рыхтуе?

***Працягваем друкаваць адказы на анкету "ЛіМа". Нагадваем, што пытанні былі такія:***

***1. Якой вам уяўляецца бліжэйшая будучыня Саюза пісьменнікаў і што для яе павінен зрабіць з'езд?***

***2. З якімі асобамі (альбо генерацыяй) звязваеце вы магчымае абнаўленне дзейнасці пісьменніцкай суполкі?***

## Алег ЖДАН

**1.** Будучыня Саюза пісьменнікаў уяўляецца без асаблівага шчасця. Гэта значыць — без грошай, без сяброўства, без яснае мэты, без удзячных нашчадкаў, без...

Куды ні кінь.

Добра было б, каб з'езд выпрацаваў новы змест дзейнасці. Але ж змест не выпрацоўваецца на сходах, яго падказвае толькі само жыццё. А што як не падкажа?..

Абараняць правы пісьменнікаў? Годзе.

Дапамагаць? Якімі сродкамі?

Дык што ж, непатрэбен больш той велічны саюз?

Не спяшайцеся. Хто ведае, аднойчы прачнёмся дый пачуем па радыё, што цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме. Ого, як тады спатрэбіцца суполка!

**2.** Ніякая новая генерацыя як след пра сябе не заявіла. Асобы ёсць, але ж, як я разумею, ім няма клопату пра СП.

Раней мы шукалі на пасаду старшыні чалавека сціплага, памяркоўнага, разумнага, прыемнага ва ўсіх адносінах — як дама ў Гогаля. А трэба, відаць, — упартага, незгаворлівага, нравістага. Патрэбен "благі" чалавек. Сярод такіх часцей сустракаюцца добрыя кіраўнікі.

## Павел МІСЬКО

**1.** Калі месць на ўвазе **бліжэйшую** будучыню Саюза пісьменнікаў, то бачыцца яна змрочнай. Чаму? Ідэям Адраджэння, якія яшчэ колькі гадоў назад натхнялі і аб'ядноўвалі амаль усіх членаў саюза і якім яны служылі, шмат хто здрадзіў: пабег не служыць, не "глаголом жечь сердца людей", а ўслугоўваць тым, хто мае ўладу, хутчэй ухапіць тлусцейшы кавалак (пакуль ёсць магчымасць).

Палітыка ўрываецца ў літаратуру. Ды інакш ці можа быць у наш час "безвременья"? Міжволі ўсклікаеш — "з кім вы, майстры культуры?" Раскол у пісьменніцкіх шэрагах вялікі (хто-ніхто задаволена паціpae рукі). Пісьменнікаў, што не вітаюцца адзін з адным, робіцца ўсё больш. Утрымаць іх надалей у адной спрэжцы будзе цяжка, як вала і "трепетную лань". Але калі з'езду ўдасца выпрацаваць адзіную агульную платформу, саюз будзе жыць. Інačай рассыплецца на групкі, суполачкі, прападзе і той лад, што быў дасюль. Падкрэсліваю: **калі ўдасца**, бо нават краіна не мае агульнанацыянальнай ідэі, блукае з завязанымі вачыма.

І ўсё ж я аптыміст, я за саюз беларускіх пісьменнікаў — не за масонскую (ледзь не патаемную) ложу, не за клуб тыпу спартыўнага ці аматараў піва або гульні ў прэферанс. Вялікай місіі, ускладзенай на нас Богам — быць сумленнем нацыі — ніхто з нас не здымаў. Думаю, што беларуская літаратура ў новым тысячагоддзі дачакаецца свайго рэнесансу, і перад пісьменнікам, як раней у вёсцы перад настаўнікам, будуць здымаць шапкі.

**2**. Думаю, што сёння цяжка назваць канкрэтнага чалавека, які змог бы стаць каля штурвала на наступны тэрмін. А калі і назавеш, то гэта не значыць, што ён згодзіцца балаціравацца і набярэ патрэбную колькасць галасоў. Так што не будзем гадаць, як у ноч перад калядамі. Мы так рэдка сустракаліся за "падсправаздачны" перыяд, што твары многіх нават забыліся. Адно ясна: ад таго, якая каманда прыйдзе да кіраўніцтва, у многім будзе залежаць і работа, і лёс саюза.

Мне здаецца, што застою ў рабоце магла б не дапусціць і ратацыя сяброў рады: пабылі год-два — і трэць "ідзе ў адстаўку", а ў склад рады на сходзе выбіраюцца новыя. Такую ратацыю пасля паловы тэрміну "службы" добра было б праводзіць і сярод сакратароў (дый ці трэба іх столькі?). Мо тады менш нудзіліся б без работы.

А шэрагі СП будуць расці. Маладая генерацыя пісьменнікаў ідзе густая, і на яе вялікія спадзеўкі. Яна і забяспечыць будучае беларускай літаратуры.

## Уладзімір ЛІПСКІ

**1**. Я меў гонар працаваць у штабе Саюза пісьменнікаў. Два з паловай гады поруч з Максімам Танкам, Іванам Шамякіным, Іванам Чыгрынавым, Барысам Сачанкам, Анатолем Вярцінскім. Гэта мае лепшыя гады жыцця.

Кожны дзень я прыходзіў першым у саюз, пакідаў яго апошнім. Гэты жыццёвы іспыт дапамагае мне і цяпер — на шляху заступніцтва за дзяцей Беларусі.

Калі я раздумваю пра будучыню саюза, то звязваю яе найперш з нашымі новымі лідэрамі. Хачу бачыць у іх апантанасць, няўрымслівасць, смеласць, кантактнасць, спагаду (усё гэта было ў тых кіраўнікоў, з якімі мне пашчасціла працаваць). Асобна хачу вылучыць іх адказнасць за даручаную справу, іх шчырую спавядальнасць перад сваім сумленнем.

Гэтага ўсяго павінен патрабаваць з'езд ад сваіх новых правадыроў. А калі ўсё пойдзе па-панібрацку, то навошта нам такая суполка? Каму патрэбны "лідэры", якія толькі атрымліваюць зарплату і не ведаюць, чаго ходзяць на працу?

**2**. На дадзеным этапе біяграфіі саюза я звязваю яго лёс з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным. Прызнанне паэта ў народзе, яго аўтарытэтная грамадзянская пазіцыя, яго вопыт арганізатарскай, кіраўнічай і дыпламатычнай працы дазволяць яму згуртаваць членаў суполкі, знайсці памяркоўны кантакт з уладамі. У творчай суполцы з ім бачацца Генрых Далідовіч, Раіса Баравікова, Анатоль Кудравец, Георгій Марчук. Хочацца верыць, што абнаўленне кіраўнічай эліты Саюза пісьменнікаў дапаможа нашай творчай арганізацыі пераадолець крызіс і выведзе яе на тую высокую арбіту, якую яна абавязана займаць пры любых грамадскіх, эканамічных і палітычных вятрах.

## Аляксей ПЯТКЕВІЧ

**1**. Саюз пісьменнікаў неабходна зберагчы як адзіную творчую арганізацыю, не дапусціць расколу, які выгадны антыбеларускім сілам. Саюз патрэбны дзеля нацыянальнай, маральнай і творчай узаемападтрымкі людзей, у працы якіх зараз не зацікаўлена дзяржава. Пісьменнікі павінны не толькі выжыць, захаваць свой твар, але і ўмацаваць уласны патэнцыял, які запатрабуе нацыя. А яна не зможа развівацца без развітой літаратуры. З'езд, на жаль, мала што паспее зрабіць за адзін дзень. Хіба што прыняць пастанову па кансалідацыі на творчай аснове. І яшчэ — адназначна выказацца пра свой дом, якога нас пазбавілі.

**2.** Безумоўна, найперш з генерацыі маладых ці, прынамсі, маладзейшых сяброў саюза. Іменаў не пераліčваю, бо іх у нас, дзякуй Богу, хапае. З "немаладых" назваў бы Г. Бураўкіна, В. Рагойшу, С. Андраюка, У. Някляева, А. Дударава.

## Валянцін ТАРАС

**1**. Што можна сказаць пра будучыню нябожчыка? Хіба што паклапаціцца аб прыстойнай труне...

Думаецца, з'езд павінен, нарэшце, падвесці канчатковую рысу пад мінулым, бо той СП, які быў створаны ў 1934 годзе як літаратурная філія ЦК КПБ і заставаўся ёю шэсць з гакам дзесяцігоддзяў, які быў аранжарэяй "кіруючых пісьменніцкіх кадраў", пісьменніцкім "жэсам" і "сабесам", размеркавальнікам прывілеяў, — той СП сканаў разам з дзяржавай, чэрава якой яго спарадзіла. Не дзіўна, што ў новы гістарычных умовах, застаўшыся без падтрымкі свайго некалі ўсемагутнага шэфа, СП аказаўся абсалютна бездапаможным, няздольным на ўласную ініцыятыву, на ўласны выбар. Звычка заўсёды стаць перад уладай па стойцы "смірна", заўсёды здымаць перад уладай шапку аказалася фатальнай: нават тады, калі краіну павялі на самазнішчальны для беларускай нацыі, беларускай культуры рэферэндум, СП заставаўся ў стане каталепсіі. Ды і ці магло быць інакш? Не адважваючыся ў мінулым бараніць асобных сваіх сяброў ад праследу партыйных сышчыкаў і жандараў, сёння СП не змог абараніць самога сябе. Уласны будынак і той адабралі, проста выгналі з роднай хаты!

З'езду адмовіцца б ад даўно ўжо мёртвай структуры і пашукаць нешта прынцыпова новае, але, думаю, ён якраз зоймецца рэанімацыяй нябожчыка. Пад сцягам "саюза Беларусі і Расеі". А гэта — сцяг раскола...

**2**. Відаць, сёння ва ўсіх генерацыях існуе падзел, вызначаны ўсё тым жа рэферэндумам 1996 года. Таму, на маю думку, будучыня нашай творчай суполкі залежыць ад усіх тых, хто, незалежна ад узросту, арыентуецца на дэмакратычныя прынцыпы цывілізаванага свету, хто не хварэе настальгіяй па "добрых старых часах" і рашуча адмаўляе спробы вярнуцца ў казарму. Хто зыходзіць з першаснасці для Беларусі роднай мовы, сваёй гісторыі, сваёй самабытнасці.

## Іван ЧЫГРЫН

Бліжэйшая будучыня СП уяўляецца невыразнай, калі не проста цяжкай. Нават у параўнанні з сённяшнім днём. Думаецца, прыкметна змяніць сітуацыю да лепшага, хто б ні быў абраны ў кіраўнічыя органы СП — з маладой ці са старой генерацыі пісьменнікаў (з маладых, можа, яшчэ горш), хай сабе і самыя ідэальныя асобы будуць абраны — з'езду не пад сілу. Па вялікім рахунку справа тут не ў асобах, а ў агульным стане грамадства. Абнаўленне дзейнасці СП магчыма толькі пры ўмове, калі сваё развіццё як рух наперад, а не назад акрэсліць само грамадства. Толькі ў такім разе і можа нешта разумна вырашыцца. Што б мы там ні гаварылі пра ролю пісьменніка ў грамадскім жыцці, ён, пісьменнік (у тым ліку і СП у цэлым), — падпарадкаваная аб'ектыўным умовам чалавечага агульнабыцця адзінка, і пісьменніцкая арганізацыя нават у большай меры, чым асобны творца. Пакуль што нічога асабліва добрага, як бы нам таго ні хацелася, СП не чакае. Асаблівасць моманту вымушае пісьменнікаў быць палітыкамі. А яны як палітыкі — і ў шырокім і ў вузкім сэнсе — вельмі розныя. Таму ім цяжка зверыць і ўзгадніць мэтанакіраваны рух у будучае.

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Шчырае прызнанне

Зоркі беларускай аперэты далі ў Віцебску два канцэрты. У вольны ад выступленняў час зорка першай велічыні Н. Гайда адказала на пытанні рэдактара газеты "Вечерний Витебск". Было цікава даведацца пра некаторыя "сакрэты" з асабістага жыцця спявачкі. Наталля Віктараўна шчыра прызналася, што ёй пашанцавала з выбарам спадарожніка жыцця. Яе муж заслужаны артыст Беларусі Юрый Бастрыкаў — саліст нацыянальнай оперы. У іх дарослая дачка і ўжо ёсць унучка. Дзякуючы мужу, народная артыстка не ведае, што такое кухня і блуканні па крамах.

— Я мала прыстасаваны да жыцця чалавек, — гаворыць Гайда, — і амаль нічога не ўмею з таго, што павінна ўмець гаспадыня. Затое люблю парадак і прыбіраю ў доме сама...

Міжнародны біяграфічны цэнтр унёс летась прозвішча спявачкі ў Міжнародны біяграфічны даведнік "Хто ёсць хто".

## Кляштарныя майстры

У Аршанскім этнаграфічным музеі "Млын" адкрылася выстава праваслаўнага мастацтва. На ёй прадстаўлены абразы, карціны, "царская брама", выкананыя творчым калектывам майстэрань Куцеінскага багаяўленскага мужчынскага кляштара, які ўзначальвае Віктар Жураўлёў. Аршанцы ўпершыню пазнаёміліся з работамі куцеінскіх майстроў. Жураўлёў і яго калегі ўдзельнічалі раней у выставах у Санкт-Пецярбурзе і атрымалі дыпломы.

## Парыжскі падарунак з Германіі

Мецэнат з Германіі Генрых Мандэль падараваў Віцебскаму музею Марка Шагала альбом з арыгінальнымі каляровымі літаграфіямі вядомых мастакоў Жана Міро, Паўля Клея і Марка Шагала. Альбом быў выдадзены ў Парыжы ў 1938 годзе. Падарунак прымеркаваны да адкрыцця выставы "Графіка Марка Шагала".

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## Пэндзаль і голас мастака

У Горацкай карціннай галерэі адкрыта выстава работ народнага мастака Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў, славутага пейзажыста Паўла Масленікава. Творы прадстаўлены фондамі Магілёўскага абласнога мастацкага музея, які зараз носіць імя майстра.

У экспазіцыі — каля 40 карцін, напісаных аўтарам у 80—90-я гады. Большасць у свой час была падаравана Паўлам Васільевічам абласному музею. Наведвальнікі маглі не толькі ўбачыць класічныя пейзажы, але і пачуць жывы голас Масленікава, прадстаўлены ў запісах мастацкім музеем.

## "Надзея" шукае фундатараў

Чэрыкаўскі песенны ансамбль "Надзея" ведаюць не толькі ў раёне, але і ў рэспубліцы. Аб высокім выканаўчым майстэрстве калектыву сведчаць і званне народнага, і перамога ў міжнародным фестывалі "Прыдняпроўскія галасы", які праходзіў у Дуброўне, і выступленні на шматлікіх канцэртах.

Зараз у калектыву пачаліся няпростыя турботы — "Надзея" атрымала запрашэнне на ўдзел у міжнародным фестывалі фальклору славянскіх краін, які адбудзецца ў Польшчы. Фестываль маецца быць прадстаўнічым: у ім возьмуць удзел не толькі краіны былога Саюза, але і Балгарыя, Венгрыя, Чэхія, Югаславія, Румынія.Таму зараз калектыў займаецца падрыхтоўкай фестывальнай праграмы і... шукае спонсараў, якія змаглі б прафінансаваць паездку "Надзеі" ў Польшчу. Як паведамляе "Магілёўская праўда", у ансамбля ёсць надзея на грашовую падтрымку не толькі райвыканкама і ўлад абласнога цэнтра, але і на дапамогу мясцовых мецэнатаў. Бо выдзеліць амаль 400 мільёнаў рублёў на падрыхтоўку строяў, абутку і паездку ў Польшчу бюджэту Чэрыкава проста не па сілах.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ...*

## Адчуць душу гаворкі

Пяць гадоў назад распрацаваў і пачаў весці курс лінгвістычнага краязнаўства (вывучэнне краю праз моўныя факты) у Брэсцкім дзяржуніверсітэце загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі, кандыдат філалагічных навук Мікола Аляхновіч. У такім аб'ёме гэтая дысцыпліна пакуль што не выкладаецца ні ў адной іншай ВНУ рэспублікі. Тым большую цікавасць выклікаў семінар-практыкум, праведзены нядаўна на Брэстчыне. Былі заслуханы даклады яго арганізатара М. Аляхновіча, сталічных вучоных В. Вярэніча, Ф. Клімчука, настаўніка з Драгічынскага раёна Я. Квачука. Потым удзельнікі семінара пабывалі ў вёсцы Бярковічы на Драгічыншчыне, сустрэліся з яе жыхарамі, пачулі жывую гаворку і нямала даведаліся з гісторыі і этнаграфіі гэтага палескага кутка, дарэчы, — радзімы беларуска-польскага даследчыка Францішка Віславуха, чыя спадчына надзвычай багатая, аднак яшчэ недастаткова вывучана.

## Работы старэйшыны

У Брэсце адкрылася выстава жывапісных работ найстарэйшага берасцейскага мастака Івана Рудчыка, якому сёлета споўнілася 90 год. Ён — удзельнік вайны, і нямала яго палотнаў прысвечана таму суроваму часу. Значнае месца ў экспазіцыі займае лірычны беларускі пейзаж, а таксама партрэт. Івана Дзям'янавіча горача віншавалі і зычылі яму здароўя калегі, сябры і шматлікія прыхільнікі ягонай творчасці.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГРОДНА...*

## Сустрэча ў школе

Два літаратары: адзін з Мінска — Мікола Чарняўскі, другі з Гродна — Данута Бічэль — адначасна з'ехаліся ў Валкавыску і сустрэліся ў школе-інтэрнаце з дзеткамі, якія і паспявалі, і пачыталі вершы, і паказалі сцэнку па творах гасцей, і падаравалі ім свае сувеніры.

Літаратары пачыталі новыя вершы і пакінулі дзецям свае аўтографы.

## Vita — жыццё

У Гродзенскім універсітэце адбылася прэзентацыя зборніка вершаў універсітэцкіх паэтаў "Vita — жыццё", які выдадзены ў Гродне. Перад калегамі-студэнтамі выступалі паэты Юрась Пацюпа, Анатоль Брусевіч і пачаткоўцы. Прафесар Аляксей Пяткевіч звярнуў увагу аўдыторыі на вершы студэнта Віталя Клунейкі, якія сапраўды адметныя ў сваёй арыгінальнасці.

**Алена ГАЙКО**

ШЛЯХІ

***Пятачок — гэта, зразумела, не тое сімпатычнае казачнае парася, якое наўрад ці змагло б моцна паўплываць на жыццёвы курс нашага ... не , не Віні Пуха, а хутчэй, аднаго з ягоных сяброў. Але каб не пакрыўдзіць нашу нацыянальную годнасць, імя яго называць не будзем. І Пятачок, і Віні Пух, ну і тая не вельмі знаходлівая, але церплівая і цягавітая жывёліна, што з імі падарожнічала — у дадзеным кантэксце сімвалы, прычым самыя што ні на ёсць прэтэнцыёзныя. Каб не тлуміць галаву чытачу, адразу патлумачым іх сэнс. Пятачок — гэта нейкая суперідэя, пры дапамозе якой нас ужо гадоў 80 вядуць да ўсеабдымнага шчасця. Чаму Пятачок? Тут сімволіка зусім празрыстая — большасць з нас малілася, ды і працягвае маліцца замест святога крыжа якраз пяціканцоваму знаку, які найбольш ярка сімвалізуе тую суперідэю. Сімвал гэты, знак, дзіўным чынам патрапіўшы да нас калісьці з далёкага Блізкага Усходу, нягледзячы на ягоную відавочную для большай часткі свету інфернальную сутнасць, застаецца для многіх сёння ледзь не самым прыцягальным. Нават калі і ходзяць яны ў царкву ці ў касцёл. Няма праблем і з мядзведзянём Віні Пухам і ... з тым нягеглым ягоным сябрам. Вядома, якую краіну сімвалізуе сапраўдны цар паўночных лясоў, магутны і прыгожы звер — мядзведзь. Што да іншага вельмі адданага вініпухавага сябра, то і яго ў тым свеце таксама добра ведаюць. Вядома, апошні з сімвалаў, на імя якога мы накладваем такое спрэчнае табу, ніколі не быў нашым нацыянальным татэмам (нам, дарэчы, вельмі хочацца, каб ім быў прыгажун зубр), але мы былі вымушаны выкарыстаць яго, каб не парушыць законы аўтарскага права. Ну і, вядома, законы жанру. які мы абралі...***

Алесь Гібок-Гібкоўскі

# Куды ідзём мы... з Пятачком
## або Некалькі шляхоў будучыні Беларусі

I

Дык куды мы ўсё ж такі ідзём з тым Пятачком "наперавес"? Куды рухаецца адзін са старажытных еўрапейскіх народаў на фінішы другога тысячагоддзя эры Хрыстовай? Спробы ўдакладніць гэты маршрут і ў тых , хто сёння “ля руля”, і ў тых, хто імкнецца змяніць курс, пакуль што не даюць пэўнага выніку. Гэта калі і не “большой секрет”, то, прынамсі, і не празрыстая, адназначная ідэя, зразумелая і даходлівая для ўсяго народа. Ва ўсіх дзеючых асобаў сённяшняга нашага ўнутрыпалітычнага спектакля — і ва ўладаў, і ў апазіцыі, і ў “вызвольнага руху”, і іншых, хто на такую ролю прэтэндуе — ёсць, вядома, нейкія мапы, дзе той маршрут быццам бы акрэслены. Але адзінае, што можна сёння цвёрда сказаць — накіды таго маршруту, мякка кажучы, вельмі непадобныя між сабою.

Праўда, у апошні час як у апазіцыйных, так і ў дзяржаўных выданнях тыя спробы акрэслівання нашай будучыні патроху пачынаюць знаходзіць пэўнае ўвасабленне. Па гэтым пытанні ёсць меркаванні і ў нашых суседзяў -- як на Захадзе, так і на Ўсходзе. Прааналізаваўшы іх, можна зрабіць некаторыя высновы. Вымалёўваецца шэраг асноўных поглядаў на шляхі—перспектывы развіцця нашай краіны.

Першы з іх, так бы мовіць, дамінуючы сёння погляд — гэта быццам бы цвёрды і выразны курс на аншлюс — поўнае аб”яднанне Беларусі з Расіяй. Варыянты яго— федэрацыя ці канфедэрацыя, што, зрэшты, неістотна. Ён прадэкламаваны неаднаразова цяперашняй уладнай элітай Беларусі ў дзяржаўных СМІ.

Другі погляд таксама даўно акрэсліўся. Шлях, на якім цвёрда і бескампрамісна настойвае Народны фронт — як мага большае дыстанцыраванне ад Расіі і як мага шчыльнейшае супрацоўніцтва з Еўропай. Найбольш поўна ён акрэслены ў нядаўнім артыкуле лідэра БНФ Зянона Пазняка пад назваю “Вяртанне БНР”.

Трэці погляд —частковае ўваходжанне Беларусі ў склад Расіі, за выняткам заходніх “акаталічаных” абласцей, як кампрамісны шлях у дачыненні да Захаду і той жа Польшчы. Гэта прадукт геапалітычных распрацовак т.зв. “новаімперцаў” у Расіі на чале з адным з іх тэарэтыкаў і лідэраў Аляксандрам Дугіным, якія ў справе вяртання Беларусі і, вядома, Украіны пад расійскае крыло лічаць за лепшае дзейнічаць, як кажуць, пэўна, без збояў.

Чацвёрты погляд, які ўсё часцей знаходзіць сваё адлюстраванне ў аналітычных даследаваннях спецыялістаў на Захадзе, ды і некаторых аналітыкаў у Расіі, прадказвае Беларусі пры цяперашніх інтэграцыйных тэндэнцыях зусім не ганаровую будучыню. Паводле яго Беларусь, захаваўшы ўсе ж такі дзяржаўнасць і незалежнасць дэ юрэ, фактычна ператворыцца ў расійскую калонію, у лепшым выпадку -- у другасную марыянетачную дзяржаву.

Ну і, нарэшце, пяты погляд, самы экстравагантны і нечаканы, які прадстаўляюць некаторыя беларускія аналітыкі з шэрагаў нацыянал-камуністаў. Як гэта ні дзіўна, але гэтыя прамыя нашчадкі нацыянал-камуністаў 20-х, 30-х гг. на Беларусі захаваліся. Яны ставяць за мэту стварэнне Вялікай Беларусі (ці Вялікай Расіі) з цэнтрам ,вядома, у Мінску, далучыўшы да яе тэрыторыі этнічныя беларускія землі, найперш у Расіі.

У кожнага з гэтых поглядаў ёсць як моцныя, прапрацаваныя бакі, так і важкія хібы, ад якіх не адмахнуцца, як ад надакучлівых мух.

II

Пачнём з “дамінуючага” і, як сцвярджаюць улады, усенародна падтрыманага на двух рэферэндумах. Але ў тым і справа, што **прамой** падтрымкі аншлюса Беларусі не было ні на адным з рэферэндумаў. Як і не было на тых рэферэндумах **прамога** пытання аб скасаванні дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь. Нават калі і прыняць за аксіёму тую народную падтрымку сённяшняй уладзе, то гэта хутчэй крэдыт даверу на магчымасці рэальнага паляпшэння жыцця нашага народа шляхам больш цесных эканамічных кантактаў з вялікай суседкай. Пра што, дарэчы, так шмат гаварылі і гавораць цяперашнія лідэры краіны. Што ж датычыць самога факта існавання Беларусі як краіны, то, за выключэннем т.зв. “пятай калоны”, большасць беларусаў, пры ўсёй невыразнасці іх нацыянальнай свядомасці, наўрад ці моцна захоча ліквідацыі сваёй дзяржавы. Гэта, паўторым, без уліку тых тэндэнцый, якія , дарэчы, сёння фіксуюцца і дзяржаўнымі сацыялагічнымі службамі — за апошнія 6—7 гадоў нацыянальная самасвядомасць беларусаў, асабліва моладзі, істотна ўзрасла. Найперш гэта датычыць інтэлектуальнай часткі грамадства. Ёсць і вельмі цікавыя канкрэтныя лічбы, якія, на жаль, шырока не прадстаўляюцца. Не ўлічваць гэта ўлады не могуць. Прынамсі, не павінны. Да таго ж няўхільна расце і т.зв. заходні ўплыў у вельмі шырокіх колах грамадства. Міграцыйныя працэсы з-за пашырэння эканамічных і духоўных стасункаў значна актывізаваліся і пры любых прапагандысцкіх высілках дзяржавы нівеліраваць гэты ўплыў сёння практычна немагчыма. Час “жалезнай заслоны” мінуў незваротна і той, хто марыць яго ўзнавіць, выглядае, мякка кажучы, даволі смешна. Заходні ўплыў — і эканамічны, і духоўны (пры ўсіх яго выдатках і хібах) — таксама неабходна ўлічваць пры вызначэнні палітычнай стратэгіі, бо ён зусім не спрыяе інтэграцыйным працэсам.

Праўда, гэта фактары і тэндэнцыі хутчэй ўмоўныя — не прамога ўздзеяння. Ёсць, відавочна, шэраг больш канкрэтных і важкіх прычын, якія стварэнне новага ці ўзнаўленне старога саюза робяць практычна нерэальнымі. Пра іх сёння шмат пішуць даследчыкі і аналітыкі ў Расіі і на Захадзе. На іх думку, аб”яднанне Беларусі і Расіі немагчымае не з-за “происков” і інтрыг праціўнікаў інтэграцыі ў гэтых краінах, якія пакуль што не маюць для стварэння істотных перашкод такому працэсу **рэальных** магчымасцяў, а з-за пэўнай прыроды нашых палітычных рэжымаў. І на Беларусі, і ў Расіі, сцвярджаюць яны, усталяваліся рэжымы асабістай улады прэзідэнтаў з некаторымі “фасаднымі” элементамі дэмакратыі. Абодва прэзідэнты змагаліся за максімальную асабістую ўладу і дасягнулі яе і, безумоўна, аддаваць яе не збіраюцца. І пры самым іх шчырым памкненні да аб”яднання лідэры абедзвюх краін нават і думкі не дапускаюць, што аб”яднанай дзяржавай будзе кіраваць нехта іншы, а не ён сам. Выснова робіцца да болю простая — двух кіраўнікоў у дзяржавы быць не можа, значыць і дзяржавы такой не будзе. А калі дадаць да гэтага ўсведамленне нашымі прэзідэнтамі сваёй месіянскай незаменнасці і таго, што іхная ўлада, у адрозненне ад заходніх калег, можа быць калі не пажыццёвай, то вельмі і вельмі працяглай, то ...

Нельга, праўда, пакінуць у баку адзін момант, пра які таксама многа пішуць сёння і ў расійскай, і ў беларускай апазіцыйнай прэсе: магчымасць усталявання на маскоўскім “прастоле”больш маладога і энергічнага лідэра. Пры ўсёй умоўнасці такой пасылкі ў яе ёсць і рэальныя падставы. Асабліва, калі прыняць за аксіёму тое, што 2000 год для расійскай пракамуністычнай, а дакладней пранаменклатурнай апазіцыі, якую істотна пацяснілі ад вышэйшай улады, будзе годам “апошняга і рашаючага” змагання за яе вяртанне. Час працуе не на гэтыя колы, якія, дарэчы, назваць расійскімі, відаць, усё ж такі нельга — яны хутчэй савецкія. Колы гэтыя цудоўна адчуваюць свой апошні шанц. А паколькі дасягнуць яго новай рэвалюцыяй ім сёння не пад сілу, застаецца шлях дэмакратычны, а калі дакладней — шлях не па іхніх, а па чужых правілах гульні. Для перамогі па гэтых правілах патрэбен яркі энергічны лідэр з добрай харызмай і ладным іміджам. Такі ёсць у “саюзнай” краіне. Пакуль, праўда, яшчэ не да канца саюзнай, але... Ды як ім той саюз ператварыць у рэальнасць — “вот в чём вопрос!” Вось калі гэта атрымаецца — і сёння мы сведкі іх ліхаманкавай дзейнасці ў гэтым плане, тады іншая справа. Між тым, нельга не заўважыць у інтэграцыйных памкненнях пранаменклатурнай апазіцыі ў Расіі нейкую “обречённость”. Не, усё робіцца правільна і “моцна”— асабліва моцныя словы гаворацца, але іхні выраз твару пры гэтым нейкі не вельмі ўпэўнены. Быццам самыя шчырыя змагары за саюз іграюць заведама “провальную” ролю ў нейкім вельмі састарэлым, хоць і папулярным пакуль, спектаклі. У гэтым іх адрозненне ад нашых беларускіх інтэгратараў, на тварах якіх часта чамусьці праглядаецца вельмі непрыхаваны выраз блізкага трыумфу. Але хто яго ведае, каго той трыумф чакае? Прынамсі, калі ставіцца да аналізу перспектыў у гэтым плане грунтоўна і сур”ёзна. Бо для сур”ёзных аналітыкаў вядомы прынцып “чего изволите” ў дачыненні да тых, хто "музыку заказвае", які ў савецкія часы даваў шмат дывідэндаў, у сённяшнім часавым кантэксце можа аказацца пагібельным. Асабліва ў нашых, беларускіх умовах...

III

Ёсць хібы і ў, на першы погляд, яснага і дакладнага “плана- перспектывы”, акрэсленага лідэрам БНФ. Пакінем убаку аналіз рэальных рычагоў для ажыццяўлення яго, бо, паўторым, той крытычнай масы ў грамадстве, якая б дазволіла памкненні вызвольнага руху ажыццявіць, сёння няма. Ёсць, вядома, і іншыя шляхі, пра якія так “неистово” распавядаюць зубры некаторых нашых дзяржаўных СМІ — напрыклад, атрыманне сродкаў на “падрыўную дзейнасць” ад знешніх спонсараў. Але, мусіць, не надта тыя спонсары “раскручваюцца” ( ведама ж, капіталісты — страшэнныя скнары), бо неяк заціхлі размовы на гэтую тэму і не прадставілі "зубры" чамусьці “ шырокай грамадскасці” тыя забойчыя факты, з-за якіх можна было адразу ставіць да сценкі ледзь не палову беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Балазе, вопыт такі ёсць, ды і некаторыя носьбіты яго, вопыту, яшчэ жывыя. Чаму не падзяліцца? Ды нават калі і сур”ёзна паставіцца да такой магчымасці — экспартаваць “вызваленне” з-за мяжы, то за ўсё потым трэба плаціць — і найперш тым жа суверэнітэтам. Смешна лічыць кіраўнікоў БНФ, пры ўсіх іх памылках, здольнымі гандляваць такімі рэчамі. Да таго ж, пры ўсёй лаяльнасці Захаду да антылукашэнкаўскіх сіл, у заходніх фінансавых алігархаў ёсць свае, вельмі выразныя і пэўныя мэты ў гульнях з нашай суседкай, у якіх незалежнасць Беларусі -- не болей чым разменная манета. Цяжка ўявіць, што гэта не ўлічвае той жа Зянон Станіслававіч...

Апазіцыйныя сістэмы могуць існаваць і канкурыраваць з уладамі толькі на грунце рэальнага ўплыву ў масах. А за гэта трэба змагацца і шмат працаваць у тых жа масах. Трэба, дарэчы, адзначыць, што фронтаўскія структуры, паступова выходзяць і на правінцыйны палітычны рынак са сваім палітычным таварам. Добра было б, вядома, каб гандляваць ім не перашкаджалі, як гэта, напрыклад, адбываецца на тым жа Захадзе. Але ў нас , як кажуць, “изначально” спецыфічныя умовы, а можа, яны і ніколі і не будуць іншымі...

Што да самога "плана-перспектывы” лідэра БНФ, то адразу відавочная яго дамінуючая, “люстрацыйная” сутнасць. Патлумачым для недасведчаных — усіх тых, хто так ці інакш “запэцкаўся” наменклатурнай закваскай, і блізка да ўлады дапускаць нельга. Хто яго ведае, у ідэале, можа, яно і добра было б. Але адразу ж узнікае вельмі суровае пытанне, пра якое ідзе размова яшчэ з канца 80-х, — а каго на змену? У тым і была “спецыфіка” савецкай улады на Беларусі, што на ўсялякі выпадак “запэцкаць”, скампраметаваць імкнуліся як мага болей людзей. Колькі, успомнім, прагучала ў свой час шчырых прызнанняў адносна гэтага нават некаторых вельмі імпэтных нацыяналістаў. А колькі з іх яшчэ маўчыць і зусім не схільныя на такія экзальтаваныя крокі...

Лёгка, вядома, іх цяпер судзіць, але, мусіць, вельмі многія з тых, каго рэжым так ці інакш заангажаваў (заахвоціў, запалохаў, купіў), далёка неадназначныя, як і ўсё ў гэтым свеце, “здраднікі”, “сексоты”, калабаранты, юды... Яшчэ ў самыя першыя гады незалежнасці на палітычнай авансцэне прамільгнула некалькі вельмі цікавых асоб, прычым з самых элітарных наменклатурных колаў, якія выявілі сябе самымі сапраўднымі беларускімі патрыётамі. Што, дарэчы, было вельмі дзіўна і нечакана, прынамсі, для мяне асабіста, бо гэтага не павінна было быць, бо не магло быць... Чаму —”прамільгнулі”? Ды большасць з іх імгненна пасля “засветкі” адхілілі ад пасадаў. Большасць... Але, відаць, усё ж не ўсіх... Гэтыя факты павінны быць добра вядомыя лідэру БНФ, які ў тыя часы быў дэпутатам ВС 12-га склікання і пра многіх з гэтых людзей павінен быў ведаць.

Люстрацыя жорсткай мятлою павінна, на думку Пазняка, вымесці ў перспектыве і практычна ўсю сённяшнюю “няфронтаўскую” апазіцыю ўладам. Так, там вельмі розныя людзі, з рознымі поглядамі і менталітэтам. Многім, мякка кажучы, бракуе беларускай свядомасці, але трэба зразумець, што **шляху назад у іх няма**— ён адрэзаны назаўсёды, улічваючы асабістыя рысы характару цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Ім няма больш ніякай дарогі, акрамя апазіцыйнай. Улічваць такі фактар — гэта і ёсць палітычны прагматызм. А што да адказнасці за мінулае.... Сумленны чалавек, палітык, як гэта ні банальна гучыць, найперш адказны перад сваім сумленнем. Ад яго рана ці позна нікуды не дзенешся. Вядома, калі гэта чалавек духоўны і дастаткова інтэлектуальна адораны. Ці трэба весці размову пра іншых? Яны былі пры ўсіх рэжымах і ўладах баластам і застаюцца ім і сёння.

У складаных палітычных гульнях недапушчальныя нейкія звышэкзальтаваныя эмоцыі ці асабістая помслівасць— гэта рэзка зніжае стаўкі такога іграка. Патрэбен халодны разлік і той прагматызм, пра які і піша лідэр БНФ. Не выключаючы, вядома, гарачае сэрца, якое любіць Беларусь. Галоўнае -- неабходна зразумець, што манаполіі на такую любоў быць не павінна: большасць з нас таксама любяць сваю бедную Бацькаўшчыну...

IV

Канспектыўна прааналізуем тры астатнія погляды на будучыню Беларусі. Якімі б яны ні здаваліся нам нерэальнымі, кожны з іх мае пэўныя падставы.

“Дугінскі” шлях вымагае адрэзаць “дэідэалагізаваныя” заходнія вобласці Беларусі і Украіны, а астатняе далучыць да Расіі ў якасці “неделимых” частак. Маўляў, што страчана, тое страчана, сваю сініцу ў руцэ трэба трымаць моцна. Можна было б не надаваць гэтаму погляду сур”ёзнага значэння, але, паўторым, за ім стаяць пэўныя інтэлектуальныя і палітычныя колы ў Расіі. Яны гатовы гандляваць ізноў нашай зямлёю, у нас пра гэта, вядома, не пытаючыся.

Што да магчымасці існавання Беларусі ў якасці марыянетачнай “незалежнай” дзяржавы,то яна, на жаль, зусім не выключана, улічваючы наш драматычны эканамічны стан. Гэта і можа стаць тым рэальным фактарам, які лёгка перакрэсліць усе нашы глыбакадумныя палітычныя развагі і раскладкі. Ну і плюс тыя асобасныя фактары кіраўнікоў Беларусі і Расіі, пра якія мы гаварылі вышэй. Вынік гэтага перацягвання каната можа быць якраз такім — і ваўкі цэлыя і авечкі сытыя. Мы не абмовіліся — парадак слоў у апошнім сказе менавіта такі...

*(Працяг на стар. 12)*

## Сустрэча ў Коласавым доме

**Усё часцей і часцей "ідзе ў народ" Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, малодшы сын Якуба Коласа. Раней гэтыя абавязкі спраўджваў яго старэйшы брат. Па самой службе Даніла Канстанцінавіч (а быў ён першым шматгадовым дырэктарам музея, затым старшым навуковым супрацоўнікам) нёс павіннасць прапагандыста творчасці песняра. Не стала старэйшага — малодшы ўзяў ношу на свае плечы.**

**Гэтым разам ён прыйшоў на сустрэчу з наведвальнікамі музея. Шмат цікавага пра жыццё-быццё свайго слыннага бацькі расказаў ён удзячным слухачам — гомельскім школьнікам з аздараўленчага цэнтра "Світанак".**

**А. МАЛЕВІЧ**

## У край Нарачанскі, да Максіма Танка

**У Мядзельскім раёне гэтымі днямі пабывалі паэты Алесь Пясьмянкоў і Уладзімір Марук. Яны наведаліся ў гарадскі пасёлак Крывічы, дзе сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы. Гучала паэзія, ішла гаворка аб клопатах, якімі жыве сучасная беларуская літаратура. І, канечне ж, не была абыдзена ўвагай паэзія слыннага песняра нарачанскага краю, народнага паэта Беларусі Максіма Танка. А пасля госці разам з настаўніцай літаратуры Ганнай Скурко наведалі магілу Яўгена Іванавіча, які, як вядома, разам са сваёй жонкай пахаваны на радзіме.**

## Ёсць у Івянцы музей



**Каб захаваць для нашчадкаў работы народных майстроў і традыцыі народнай творчасці Валожыншчыны, супрацоўнікі Івянецкага музея вядуць актыўны пошук старадаўніх вырабаў ткацтва, разьбы па дрэве, ганчарства. Кожная экспедыцыя прыносіць новыя ўзоры творчасці майстроў раёна. Толькі за апошнія гады фонды музея папоўнілі каля трох тысяч знаходак.**

*На здымку: галоўны захавальнік фондаў музея Ірына Яраславаўна Катkоўская і старшы навуковы супрацоўнік Галіна Анатольеўна Сабалеўская за вывучэннем новых паступленняў.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Наш украінскі сябар

**75-годдзе вядомага ўкраінскага пісьменніка Міколы Алейніка — прыемная нагода згадаць яго добрым словам. Многія яго творы, у першую чаргу аповесці пра Лесю Украінку ("Леся" ў дзвюх частках) і "Утрапёная", якія ў перакладзе выходзілі і ў Мінску, прасякнуты матывамі дружбы ўкраінскага і беларускага народаў. М. Алейнік неаднаразова бываў на Беларусі, сябраваў з Міколам Засімам. Ён пераклаў раманы "Атланты і карыятыды" Івана Шамякіна (разам з Рыгорам Кулінічам), "Плач перапёлкі" і "Апраўданне крыві" Івана Чыгрынава, аповесць Хведара Жычкі "Дзе растуць бяссмертнікі", апавяданні Аляксея Кулакоўскага, Івана Навуменкі і іншых пісьменнікаў. У сваю чаргу творы М. Алейніка па-беларуску пераўвасаблялі Вольга Іпатава, Хведар Жычка, Уладзімір Шахавец...**

КРЫТЫКА

# Праз зоркі да сябе

Рухомасць часу, яго паступовасць, як і бязмежная зменлівасць асобнага і шматаблічнага чалавечага жыцця з усімі яго перспектывамі, робіцца аб'ектам мастацкага даследавання ў новымі гістарычным рамане В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў" ("Полымя", N N 10, 11, 1997 г.). Складаны перыяд праўлення Міндоўга, тагачасная эпоха імклівых перамен, праяўляючыся праз абрысы наваградскіх паданняў, старажытныя вераванні, дакументальныя звесткі, кніжныя помнікі, творчую фантазію пісьменніцы, дазволілі ёй не толькі паказаць, "як язычніцкі культ перарастае ў хрысціянства", але і сцвердзіць, што "час на самой справе бясконцы..." Цікава, што ў дадзеным выпадку В. Іпатава даказвае гэта не праз строгае следаванне за канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі і іх асвятленне, хоць яны і займаюць значнае месца ў сюжэтнай канве твора, а праз зварот да ідэі духоўнай еднасці людзей, выяўленне індаеўрапейскіх каранёў веры і светаўспрымання продкаў, разгляд чалавека ў непарыўным адзінстве з прыродай, космасам.

Асобнымі згадкамі акрэсленыя матывы ўжо прагучалі ў рамане пісьменніцы "За морам Хвалынскім". Яго галоўны герой Алекса са здзіўленнем для сябе адкрывае падабенства ўласных светаўяўленняў з культурай персаў, з якімі звёў яго лёс. Новы твор цалкам пабудаваны на асэнсаванні дахрысціянскіх вераванняў беларусаў, іх пераважнага пакланення блізнятам Ашвінам, якія адольваюць нячыстую сілу, культу каня. Т. Шамякіна знаходзіць наступнае тлумачэнне такой з'яве: "Некаторыя вучоныя звязваюць выключную важнасць блізняцкіх міфаў з дуалізмам свету. Ёсць меркаванне і касмаганічнае: у заходняй частцы неба ярка ззяюць дзве зоркі, падобныя да вачэй... З'явы Космасу былі перанесены ў міфалагічныя сістэмы..."

В. Іпатава бярэ на сябе смеласць разгледзець чалавека праз прызму жыццёвай наканаванасці, прадвызначанай вышэй, пэўнасці яго месца ў надзвычай прадуманай і гарманічнай светабудове, дзе ўсё і ўсе — сузалежныя і невыпадковыя. Яе гераіня, жрыца храма Ашвінаў Жывена, перакананая ў прысутнасці напісаных нябёсамі скрыжаляў лёсу, а таму не імкнецца мінаваць іх, не шукае лягчэйшага шляху. "Я люблю ўсіх, бо мы ўсе душы, што прыляцелі сюды, каб зрабіць наканаванае", — гаворыць яна князю Міндоўгу, які адначасова прагнуў і вялікай улады, і зямляў. Прыкладна тое ж даводзіць яна Войшалку, упэўненая, "што ўсё наканаванае ўжо існуе ў будучым, жыве яно і ў мінулым пасля таго, як адбылося, бо Час не рухаецца. І мы, толькі мы, праходзячы скрозь ягоную вось, сутыкаемся з падзеямі, а яны сцерагуць нас, выпрабоўваюць на нешта, што вядомае толькі багам ці вагам, на якіх узважваюцца пасля смерці ўсе нашы грахі".

Выходзіць, што мала прыняць, згадзіцца з суджаным табе. Трэба яшчэ годна сустрэць і перанесці адведзеныя выпрабаванні ды імкнуцца іншым дапамагчы справіцца з імі. Вырашыўшы перажыць напоўніцу дары і іспыты лёсу, Жывена выкарыстоўвае свае лекарскія здольнасці, талент правідцы для палёгкі становішча іншых, умацавання іх духу. Сама ж шукае цвёрдасці і рашучасці ў сабе, мацуючыся спакоем і харaством прыроды, заслужанай праз малітвы падтрымкай таямнічых Ашвінаў і адмаўляючы душэўны страх. Маладая жрыца добра засвоіла ўрок старога Святазара пра тое, "што ўсе жахі жыцця прыцягваюцца самім жа чалавекам, і ў сабе, верачы багам і светламу пачатку жыцця, трэба шукаць паратунку".

Выхаваная з першых дзён нараджэння ў храме, прывучаная валодаць сваімі пачуццямі і ўчынкамі, Жывена тым не менш адчувае, як гэта не проста даецца, асабліва звычайнаму чалавеку, і як гэта важна — мець цярпенне і мужнасць прыняць тое, што не можаш змяніць. "Трэба адужаць бяду, адолець усё, чым выпрабоўвае нас лёс", — не раз паўтарае сабе і іншым гераіня. Такой жа думкі прытрымліваецца яна пра раней перажытае. Чалавек не павінен бясконца вяртацца да яго праз успаміны і тым самым нанова перажываць. Іспыты даюцца для ўмацавання духу і веры. Усвядоміўшы гэта не толькі розумам, але і сэрцам, Жывена здолела адкрыць для сябе сілу яшчэ аднаго павучання мудрага Святазара. Дакладна: "Чалавек ведаў не можа не быць цвёрдым і рашучым, бо ноша ягоная цяжкая, а шлях далёкі".

Варта падкрэсліць, што большасць герояў В. Іпатавай вывяраецца на чалавечнасць у сваіх далёкіх шляхах. Праз шматлікія сустрэчы і выпрабаванні, праз страты і набыткі, праз прыніжэнні і ўзлёты. Але гэта не проста дарога да спасціжэння саміх сябе, сваіх фізічных і духоўных магчымасцяў. Найперш — гэта шлях да Радзімы, адкрыццё таго, "**што** ёсць любоў да Радзімы".

Да такіх адчуванняў у рэшце рэшт узняўся малады герой рамана Л. Дайнекі "Чалавек з брыльянтавым сэрцам". Блізкі да гэтага стан перажывае жрыца з храма Ашвінаў В. Іпатавай. "Душа дзяўчыны кружылася над узгоркамі і далінамі, над чырвонымі мурамі навагародскіх вежаў, і ў сне такое замілаванне ахоплівала яе, што слёзы мачылі жорсткую падушку, а вобраз радзімы і твары дарагіх яе сэрцу людзей стаялі перад вачыма і ўдзень. Ніколі не думалася, што такой нястрымнай, такой горкаю, безнадзейнаю мукаю будзе поўніцца сэрца".

Увогуле, ствараецца ўражанне, што ўся паэтычная сістэма рамана, пачынаючы з пераважнага асэнсавання міфалагічных вытокаў нацыянальнага светапогляду і заканчваючы прыгодніцкімі займальнымі элементамі сюжэта, увесь яе вобразны лад, сяганні да зорак, шырыні свету маюць адзіную мэту. Менавіта выразнае асэнсаванне духоўнай прыналежнасці чалавека пэўнаму краю, роднай зямлі; выключнае значэнне свайго, уласнага як перадумовы паўнакроўнага ўспрымання чужога, усеагульнага. Яшчэ аналізуючы "За морам Хвалынскім", Д. Бугаёў прыйшоў да цікавага заключэння. "Матыў сутнаснай блізкасці розных культур, сцвярджэння агульначалавечых каштоўнасцей з'яўляецца вельмі важным для разумення мастацкай канцэпцыі твора, яго гуманістычнага пафасу".

Прыведзенае выказванне мае сілу і ў адносінах да апошняга рамана В. Іпатавай, хоць тут, па нашым перакананні, акцэнты робяцца пераважна, у тым ліку і на падтэкставым узроўні, на нацыянальнай праблематыцы. Стары Агапій, верны хрысціянін, перад смерцю гаворыць Жывене: "Табе адно магу завяшчаць: любі нашу зямлю, аддай ёй лепшыя сілы душы..." Зварот да сусветна вядомых помнікаў духоўнай культуры, іх частае цытаванне, як і спасылкі на навуковыя трактаты, міфалогію іншых народаў, толькі дапамагаюць пісьменніцы выйгрышна падкрэсліць, адцяніць адметнае, непаўторнае ў псіхалогіі, светаўспрыманні далёкіх продкаў, іх тлумачэнні з'яў прыроды, уключаючы і яе высокія сферы. Праз асобныя абрысы, прадметныя і адухоўленыя, праз ажыўленыя вобразы і адчуванне пульсацыі гадоў і даносіцца да чытача аўтарская інтэрпрэтацыя сівой мінуўшчыны, уласнае бачанне даўніны, перастворанае словам. Няма сумнення ў шчырасці К. Тарасава, калі ён заяўляе: "Літаратурнае ўваскрашэнне — заўсёды інтэрпрэтацыя. Пісьменнік піша з уласнага вопыту, і таму ў абраным гістарычным сюжэце, калі ён не служыць абмежаваным мэтам ілюстрацыі нейкай падзеі ці ідэалагічнай канцэпцыі, не менш сучаснасці, чым у сюжэтах пра сённяшняе жыццё".

Актуальнымі для ўсіх часоў з'яўляюцца праблемы спасціжэння таямніц быцця, даследавання чалавечых моцы і слабасці, любові і зла, патрэбы душы ў чысціні і дасканаласці. Здаецца, да кожнага з нас звернуты словы

РЭЗАНАНС

# "...У адзіным мы руху"

Пэўна ж, не я адзін з цікавасцю прачытаў артыкул Т. Кабржыцкай "Рвалі душу маю камунар і нацыяналіст...", прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Сасюры ("ЛіМ" за 30 студзеня).

Гэтая публікацыя мае значнасць у розных адносінах. Перш за ўсё непасрэдна як шчырае выяўленне заслужанай увагі і павагі да слыннага песняра братняга народа ці, правільней будзе сказаць, як ад шчырага сэрца кветка ў юбілейны вянок яму. Але перад намі не ўгодкава-дзяжурны хваласпеў, а спроба асэнсаваць складанасці лёсу канкрэтнай асобы і пакалення — духоўную трагедыю, прычым такую, што не спыняецца з адыходам ад спраў мінучых, звязаных з ідэямі "камунараў і нацыяналістаў", што не канчаецца нават з адыходам (і такіх асоб, і пакалення) на вечны супакой. Адпаведна, артыкул Т. Кабржыцкай так ці інакш трапіў у поле дыскусіі, незадоўга да гэтага распачатай С. Дубаўцом, на тыпалагічна блізкім матэрыяле прапаноўваючы іншае бачанне супярэчнасцяў развіцця нацыянальнай гісторыі і літаратуры. У публікацыі, прысвечанай украінскаму паэту савецкай эпохі, самі па сабе вельмі важныя акцэнты, ланцуг "папярэднікі — наступнікі" на гэтым этапе меў звёнца, якое павінна было парвацца... А яно, падмацаванае, чым было, утрывала. Вядома, ланцуг стаў не той, які б хацелася, і звязваў ён далёка не ўсё для нас, цяперашніх, прымальнае. Карыстаючыся поўнымі правамі нашчадкаў, мы, канешне, спадчынай можам распарадзіцца па-рознаму. Ды трэба ж па-разумнаму; а гэта значыць, галоўнае — без паўтарэння "аглабельшчыны", якую гэтае пакаленне добра зведала на сваіх плячах, ды і на душах.

Т. Кабржыцкая сваім матэрыялам паказала добры прыклад, як можна весці гаворку пра савецкага пісьменніка, не выносячы жорсткіх безапеляцыйных прысудаў, памятаючы пра мноства прычын супярэчнасцяў ва ўзаемасувязях асобы і гісторыі. Нам прапаноўваецца ў асобе пісьменніка, дзеяча бачыць чалавека і ставіцца да яго перш за ўсё па-чалавечы, з любоўю — гэта самае важнае ў хрысціянскім падыходзе, да якога і С. Дубавец нібыта заклікае.

Мэту і асноўны змест публікацыі Т. Кабржыцкай выдатна перадае загаловак — сапраўды, важна ўлічваць усе тыя ўмовы, што "рвалі душу" паэта і не забыцца менавіта пра душу, якая ва ўсіх выяўляецца па-рознаму, і не толькі рвецца, сціскаецца, але і хораша разгортваецца.

У сувязі з гэтым узнік і непасрэдны штуршок адгукнуцца на артыкул пра душу У. Сасюры. Справа ў тым, што мяне даўно зацікавіла творчая гісторыя яго верша з прысвячэннем Эдзі Агняцвет:

*Едзі Огнецвіт.*

***Ти — дочка Білорусі,***
***а я — син України,***
***Та в единім ми русі,***
***душі в нас солов'їні.***

***Спільні й радісні кроки***
***Вітер, зорі і трави***
***Білорусь синьоока,***
***Україна чорнява.***

***Ми в единому морі***
***З тьмою в грізному герці,***
***З твоїм серцем у хорі***
***і мое лине серце.***

*29.1.1949*

Некалі вырашыў быў звярнуцца да самой Эдзі Сямёнаўны. І вось што ўдалося высветліць, паводле яе згадак.

У студзені 1949 года ў Маскве праходзіла дэкада беларускай літаратуры, аргкамітэтам якой кіраваў А. Твардоўскі. Дэлегацыю Саюза пісьменнікаў БССР, у склад якой уваходзілі М. Танк, П. Панчанка, А. Вялюгін, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Калачынскі, І. Мележ, К. Крапіва, К. Кірыенка і Э. Агняцвет, узначальваў сам Якуб Колас. Разам з імі былі яшчэ слынныя спевакі Л. Александроўская, М. Ворвулеў. На дэкаду запрасілі таксама прадстаўнікоў іншых літаратур народаў СССР. І сярод іх быў Уладзімір Сасюра, тады ўжо шырокавядомы паэт. Раней Эдзі Сямёнаўна блізка знаёмай з ім не была. І гісторыя прысвячэння, паводле яе слоў, звязана перш за ўсё з выпадковай сустрэчай на гасцінічнай лесвіцы: сутыкнуліся — яна і Уладзімір Мікалаевіч з сынам. Завязалася размова, на пару хвілін. Між іншым, Сасюра нібыта сказаў сыну штосьці накшталт: "Глядзі, якая прыгажуня з Беларусі!" Пасля гэтага кожны пайшоў па сваіх справах і больш не сустракаліся. І толькі праз гады Эдзі Агняцвет даведалася ад літаратуразнаўцы і крытыка Ю. Пшыркова, што ў Сасюры ёсць верш, прысвечаны ёй.

Пачутае пры сустрэчы з Э. Агняцвет навяло на думкі пра тое, як мала мы (пэўна, не

мудрых парад: “Пільнуйся **святла**”; “Так, трэба рабіць сваё, настройваць душу ў лад са **светлымі** струнамі быцця, а ўсё астатняе ад цябе не залежыць”. І гэта якраз пра нас, пра нашу змізарнеласць і рэальнасць гаворыць старац: “Мы страцілі жывую радасць ад жыцця — проста жыцця, здрабнелі ў жаданнях і забыліся, што **мы лісты аднаго дрэва.** А яшчэ, — горка дадаў Святазар, — нават мы, жрацы, спрабуем дагадзіць сіле, аднак жа князі — гэта ўсяго толькі маленькія чалавечкі, якія падскокваюць каб вышэй паказаць сябе”.

Зварот пісьменніцы да вірлівай эпохі Міндоўга дазволіў ёй напоўніць прастору рамана дзіўнымі істотамі і багамі язычніцтва (Вадзянік, Лядашчык, Русалкі, Паўночнік, Жытняя Баба; Пярун, Сварог, Вялес, Мокаш, Ляля, Зюзя). Праз змены вераспавядання вялікім князем падкрэсліваецца значны ўплыў расколу хрысціянства на тагачасную дзяржаўную палітыку, умацаванне пазіцый ордэна крыжакоў. Разам са славяна-балцкай міфалогіяй у рамане ідзе гаворка пра багоў індусаў Дакшапаці, Індры, Агні, іх свяшчэнныя абрады, старажытныя запісы “Ведаў”. Адначасова аўтар пашырае абсягі твора праз выхад да астранамічнага свету, далёкага і таямнічага, з Мілавіцай, Кол-зоркай, блакітнай Чагір, Чорнай Поўняй, Сонцам, сузор’ем Арыёна, запрэжанымі ў калясніцу **светланоснымі** Ашвінамі. Гераіня В. Іпатавай нагадвае: “І неба на ўсіх адно, і зоркі на ім тыя ж”.

Такое шматскіраванае пазнанне акаляючай рэчаіснасці ў звязцы са шляхам пройдзеным і перспектывамі далейшага існавання таксама да душы сучасніку, які, здаецца, пачынае вучыцца жыць па-новаму і ўспрымаць кожную праяву свету, усякае яго стварэнне як маючае боскі пачатак, адухоўленае ім. “Свет раскрываўся ў незлічоных сваіх загадках — чаму пахнуць кветкі, што кіруе дрэвам ці раслінаю, калі яны з пупышак расхінаюцца ў раз і назаўсёды вызначаных формах, што рухае сок у зёлках і надае ім жыццядайную сілу. ...Яны лечаць хваробы, а жрацы звяртаюцца да душаў, таму што любая хвароба — гэта расплата за парушаныя законы, па якіх трэба жыць чалавеку”.

Думаецца, што ў пісьменніка, які адважваецца гаварыць пра такія сур’ёзныя рэчы, нагадвае пра першасутнаснае, таксама ёсць нешта ад жраца, аракула. Недарэмна ў рамане неаднойчы падкрэсліваецца выключная сіла слова, яго здольнасць не толькі ўплываць на розум і пачуцці, але і матэрыялізавацца. “Вагай валодаюць словы, і цягнуцца лёсы за Словам”. Прамоўленае своечасова, важкае слова В. Іпатавай, рацыянальнае і адначасова лірычна ўсхваляванае, алегарычна-сімвалічнае і роздумнае, мудра вучыць і папярэджвае.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

КНІГАРНЯ

# Шчырасць

Шчырасць... Звычайная людская шчырасць — як нам яе не стае! Нярэдка ў вочы гаворыцца адно, за вочы — другое. Даводзіцца толькі шкадаваць, што не кожнаму ўдаецца ўтрымацца на рубяжы той першароднай шчырасці, якая ў многім і акрэслівае маральна-духоўнае аблічча чалавека.

Мне цікава было сустрэцца са шчырым субяседнікам у асобе паэта Казіміра Камейшы на старонках яго новай кнігі “Лінія лёсу”: паэт як бы спавядаецца чытачу, спрабуе многія з’явы і падзеі часу вытлумачыць менавіта са свайго пункту гледжання, разабрацца ў няпростым нашым жыцці, урэшце, у самім сабе.

*Хто ты ўсё ж?*
*Сябе спытай.*
*Сам сабе вялікі следчы.*

Мажліва, гэтыя словы з верша “Душа твая і боль яе” і вызначаюць асноўны змест зборніка. З пазіцыі бескампраміснага грамадзяніна ставіць Казімір Камейша шэраг надзённых сацыяльна-маральных пытанняў у сваіх публіцыстычных вершах і гэтак жа шчыра адказвае на іх прагнаму на праўдзівае слова чытачу.

*Дзверы праўдзе не страх адчыніць.*
*Ды не проста, не проста ўсё так.*
*Шмат надзей маіх згасла ў хлусні*
*Ды заплецена ў плецiва плётак.*

Нельга не падзяліць гэтае выпакутаванае сведчанне паэта: яго боль — наш боль. Імкненне адчыніць “дзверы праўдзе” дыктуецца не лёгкай цікавасцю да праблемы, а душэўнай патрэбай, неабходнасцю інакш зірнуць на свет.

*Калі гэта мы ўсё распляцём,*
*Калі гэта расплесці магчыма,*
*Як на гэта, зямное жыццё,*
*Гляну іншымі, пэўна, вачыма.*

І сапраўды, зусім інакш уяўляецца К. Камейшу “афіцыйная частка” яшчэ нядаўняга нашага грамадскага жыцця, так бы мовіць, жыцця напаказ, калі нешта хавалася, а нешта, падманлівае, гучна дакляравалася з высокіх трыбун, і “неафіцыйная частка” таго самага жыцця — калі ўжо не трэба было лгаць адзін аднаму, гаварыць пустыя, банальныя, гучныя словы:

*У неафіцыйнай частцы*
*Чужых абдымалі свае.*
*Хто днём быў яшчэ у масцы,*
*Тут жа здымаў яе.*

Бяда ж была ў тым, што ў “дзецюкоў з апарату развязваліся языкі” для шчырай размовы толькі пасля добрай чаркі... Такі трапны сатырычны малюнак, малюнак досыць нам знаёмы, падае аўтар у вершы “Афіцыйная частка”. Потым падобных апаратных герояў мы сустракаем ужо ў сумным-сумным вершы “Песімістычнае”, але тут высокія дзяржаўныя чыноўнікі выступаюць у ролі перабудоўшчыкаў, а дакладней, як іх сам з’едліва называе паэт, — “лёсавыратоўшчыкаў”, якія больш ламалі, чым перабудоўвалі:

*Мой дом стары,*
*Яму й не снілася,*
*Што будуць так яго ламаць.*
*Перабудоўшчыкі стаміліся...*

“Стаміўся”, знік са сцэны “і сам прараб перабудовы”... Трагічныя ж вынікі так званай перабудовы краіны для лёсаў многіх і многіх людзей — вядомыя, каментарыя не патрабуюць.

Сярод лепшых вершаў зборніка, у якіх адчуваецца моцная публіцыстычная плынь, я назваў бы “Ураган”, “Дэманстрацыя”, “Балада пра люльку”, “Лінія лёсу”, “Маё пяро”, “Плач па доме”, “Сягоння хавалі даносчыка...”, “Камароўка”. Дарэчы, якраз апошні верш прысвечаны нашым дням. Рэалістычная карціна Камароўскаму рынку, дасканала, яркімі фарбамі намаляваная мастаком, нібы сфакусіравала заганы краіны з пераходнай эканомікай. Натуральна, паэт не можа прыняць маралі гандляра:

*Бяжыць у ранак і пыліць дарога,*
*І ёй, дарозе, не перадыхнуць.*
*А рынак што?*
*А рынак анічога.*
*І прэзідэнта, і самога Бога*
*Тут, не маргнуўшы вокам, прададуць.*

*Ты не глядзі застылымі вачыма*
*На ходкія вясёлыя рублі.*
*Тут ворагаў купіць яшчэ магчыма,*
*Ну а сяброў даўно ўжо прадалі.*

Такая яна, на жаль, рыначная стыхія, дакладней, стыхія дзікага рынку, у якім звычайнаму чалавеку прыстойнага месца няма. Таму з непадробнай горыччу і душэўным болем і заканчвае свой верш-фельетон паэт:

*Дык не пытайся, брат мой, як жывецца.*
*Усё, усё, як бачыш, прадаецца.*

Але ж досыць сумнага... Аўтар зборніка па натуры чалавек аптымістычны, не траціць, як і большасць з нас, надзеі на лепшае ў жыцці. Пэўна, да яго шчырых радкоў прызнання з характэрнай назвай “Надзея” можа далучыцца кожны:

*У гэтым жыцці я не ўсё разумею.*
*О, што я рабіў бы, калі б не надзея.*

Не варта, мабыць, учыняць нейкі штучны падзел паміж грамадзянскімі і лірычнымі, інтымнымі матывамі ў паэзіі Казіміра Камейшы — яны ў яго існуюць разам, іх аб’ядноўвае адна, сацыяльная глеба. Мажліва, таму так і хвалююць вершы паэта, якія ён адрасуе і Радзіме, і сваёй каханай і для якіх знаходзіць надзвычай цёплыя, шчырыя і дакладныя словы і яркія вобразы. Асабліва сардэчна апявае Казімір Камейша свае родныя мясціны, дарагі сэрцу пушчанскі край, родную прыроду. Нібыта на самай справе адчуваеш водар лесу, чытаючы верш “Паляўнічая раніца”:

*Сасонкі ў бары раскалыхваюцца,*
*Бы ў песні вясельнай дзяўчаты.*
*Хораша як дыхаецца*
*Каля паляўнічае хаты.*

*Кружыць матыль над калодзежам,*
*Песню высноўвае дрозд.*
*Да болю асцём абкалотая*
*Бяжыць сцяжынка наўпрост.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Застыглы струмень жывіцы*
*Свеціцца на камлі,*
*І хочацца паўтарыцца*
*Жывому ўсяму на зямлі.*

На гэтым, бадай што, можна было б і скончыць кароткую рэцэнзію на зборнік вершаў Казіміра Камейшы. Без нейкіх надакучлівых традыцыйных заўваг і дробязных прэтэнзій. Але ж зноў карціць ужыць “цытату” — даць слова самому паэту:

*Радок хоць і самы навейшы,*
*Старою сцягою ідзе.*
*У крузе паэтаў старэйшых*
*Яшчэ я не звыкся сядзець.*

Што ж яно, і добра... Паэт — у творчых пошуках.

**Яўген КАРШУКОЎ**

*Казімір Камейша. Мінск, “Мастацкая літаратура”, 1996 г.*

ўсе, але ў масе) ведаем пра кантакты між пісьменнікамі папярэдніх пакаленняў, а значыць, і нашымі народамі, якія ўжо падтрымліваюць братэрскія сувязі — неабавязкова праз “дэкады” і Маскву — не могуць, на жаль, ці не хочуць. Таму ўдакладніў і некаторыя моманты асабістага ўдзелу Эдзі Сямёнаўны ў беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязях. Аказваецца, яна даволі многа перакладала з украінскай мовы, — у тым ліку вершы Л. Украінкі, М. Рыльскага, М. Бажана, М. Нагнібеды, М. Цярэшчанкі, Н. Забілы, В. Бычко, Б. Чалага, М. Прыпары, В. Ткачэнкі. У. Сасюры — таксама. Трывалыя сувязі ў яе доўгі час былі з музеем Л. Украінкі, сяброўскія адносіны ўсталяваліся з такімі ўкраінскімі паэтамі, як П. Варанько, Л. Забашта.

Шмат прыемных успамінаў Эдзі Сямёнаўны звязана з удзелам у дэкадзе ўкраінскай літаратуры на Беларусі (1959 год) і, асабліва, Усесаюзным тыдні дзіцячай літаратуры, які праходзіў у красавіку 1971 года на Украіне. Незадоўга да гэтага ёю быў напісаны верш для дзяцей “Пятро з Украіны, Пятрусь з Беларусі”, які там хораша ўспрымаўся.

Такая вось старонaчка мінулага жыцця, папярэдняга пакалення пісьменнікаў і ўзаемаадносін народаў-суседзяў разгарнулася ў сувязі з імем украінскага савецкага паэта Уладзіміра Сасюры, які ўсё ж такі быў прыхільнікам таго, што замацавалася ў казённым выразе “дружба народаў”. Цяпер гэты выраз ужываецца найчасцей як гістарызм і не без іроніі. Таму, хочаш ці не хочаш, а мусіш задумацца: няўжо памыляўся У. Сасюра і тады, калі пісаў, што “ў адзіным мы руху”? Асацыятыўны змест гэтых слоў мае шматахопнасць — і пра народы, і пра асобных людзей, і пра пакаленні таксама.

**Аляксей Чарота**

ПАМЯЦЬ

# Думаў пра Беларусь

“Адным з самых таленавітых паэтаў-лірыкаў 20—30-х гадоў” называе Валерыя Маракова Лявон Юрэвіч (“Роднае слова”, 1997, N11). Далей даследчык, які цяпер жыве і працуе ў Злучаных Штатах Амерыкі, слушна піша: “Беларускі педагагічны тэхнікум, дзе з 1927 па 1930 г. вучыўся В. Маракоў, спрыяў станаўленню яго і як паэта і як беларуса. Тут, дарэчы, у літаратурным гуртку пры тэхнікуме, ён рэдагаваў часопіс “Крыніцы”. Моладзь любіла ягоную паэзію. Дзіўна, але яе чамусьці вабіў той песімізм, разгубленасць. Мабыць, настрой паэзіі адпавядаў настроям чытачоў. Гэта была паэзія кахання, надзей і расчараванняў, паэзія ў свет хараства, у свет чалавечнасці. Паэтызацыя суму, рамантызацыя прыроды прыводзілі паэта да думак пра родную Беларусь... Малюнкі прыроды былі поўныя сардэчнага агню і натхнення...”

Паэт Валерый Маракоў — мой дзед. Цудоўны лірык, які вельмі любіў сваю родную Беларусь. Я — складальніца яго кнігі “Вяршыні жаданняў”, што выйшла ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 1989 годзе. Ні я, ні нават мая мама — яго родная пляменніца, не ведалі яго асабіста, але не без яго ўплыву ўсе мы палюбілі літаратуру, шмат чыталі. Захавалася вялікая кніга твору Байрана з уласнай бібліятэкі В. Маракова, якая была забрана ў 1936 годзе пры вобыску і арышце паэта.

Мая бабуля — жонка брата В. Маракова Леаніда — колішняя настаўніца беларускай мовы і літаратуры, цяпер ёй 86 гадоў. Бабуля ўспамінае, што ў доме ў Валерыя часта збіраліся і Платон Галавач, якога яна памятае яшчэ па камсамольскіх канферэнцыях, на якіх таксама была дэлегаткай, і Максім Лужанін, і Анатоль Вольны, і Васіль Каваль, і Пятрусь Броўка. Успамінае бабуля і тое, што В. Маракова вельмі любіў і паважаў Янка Купала, часта запрашаў да сябе ў госці. І ўвогуле людзі любілі В. Маракова за дабрату.

Бабуля ўспамінае: “Ведала яго з 1934 года, калі выйшла замуж за яго брата Леаніда. У той час працавала настаўніцай у Сенніцы, часта хадзіла на Козырава, дзе жыла сям’я Мараковых (цяпер вуліца Вялікаморская, 10), дзе па сённяшні дзень стаіць дом, у якім жыў Валерый. Хата Мараковых вылучалася сярод іншых тым, што яна была глінабітнай, пабеленай...” Паставіў яе бацька паэта Дзмітрый Захаравіч, чалавек добры і адукаваны, якога паважалі да яго глыбокай старасці (памёр у 88-гадовым узросце). Маці Валерыя Вольга Станіславаўна таксама мела адукацыю, была добрай, чулай і працавітай жанчынай. Яна перажыла смерць шасцярых дзяцей і, нягледзячы на гора, дажыла да 83 гадоў, выхавала трох унукаў і праўнучку — мяне...

Паводле ўспаміну бабулі, “часта па вечарах сям’я Мараковых, а яна з’яўлялася дружнай, працавітай, збіралася за вялікім сталом з самаварам, усе люблі піць чай з драбкамі цукру”. Валерый, прыходзячы з заняткаў, пераапранаўся, дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Адпачываць надта не было калі, бо вольны час праводзіў за кнігай, за абдумваннем новых вершаў, пісаць якія, дарэчы, пачаў у 14-гадовым узросце, а ў 16 гадоў ужо здаў у выдавецтва сваю першую кнігу “Пялёсткі”. Шмат пісаў аб прыродзе, любові да Радзімы.

Аднойчы, пазнаёміўшыся з крытычным водгукам на яго першыя творы Алеся Кучара, вельмі абурыўся, што той напісаў, нібыта ў Валерыя “вочы бегаюць”. Усхваляваны запытаўся ў маці: “Няўжо і сапраўды вочы ў мяне бегаюць?” Маці, разумная жанчына, толькі засмяялася і сказала: “Сынку, твае вочы не бегаюць, а глядзяць. Яны прыгожыя ў цябе, блакітныя, а погляд іх разумны”.

Бабуля прысутнічала пры арышце В. Маракова. Калі энкаўсаўцы завіталі ў хату, Валерыя дома не было, ён якраз гасцяваў у Янкі Купалы. У хаце ператрэслі літаральна ўсё, забралі з сабой кнігі Лермантава (яго творы Валерый ведаў на памяць), Пушкіна, Ясеніна, Чарота, Янкі Купалы і іншых паэтаў. А самога В. Маракова арыштавалі, калі вяртаўся дамоў...

Мне давялося нарадзіцца і доўгі час жыць у гэтым доме разам з бацькамі. Бацька В. Маракова — дзед Дзмітрый, як я яго называла, па нацыянальнасці быў рускім, доўгі час жыў у Пецярбурзе, любіў гэты горад, любіў мора. Адсюль, дарэчы, з’явілася і прозвішча Маракоў. І бацька В. Маракова, і яго маці добра ведалі літаратуру (беларускую, рускую, замежную). Відаць, гэта таксама паўплывала на тое, што і я выбрала прафесію філолага. Ды і цяпер у доме нібыта прысутнічае сам дух Валерыя — на сцяне яго вялікі партрэт.

І, канечне ж, памяць пра яго — у вершах, якія засталіся ў кнігах і прыйшлі да сённяшняга чытача. Шкада толькі, што няма твораў В. Маракова ў школьных хрэстаматыях, а лепшыя з іх варты таго, каб іх ведалі вучні.

Напісаныя ў 20—30-ыя гады, творы В. Маракова і сёння не састарэлі, бо ў іх на першым плане любоў да ўсяго роднага, кроўнага, да ўсяго беларускага. Вялікая назіральнасць дапамагла паэту ствараць маляўнічыя пейзажы. У яго лірычных вершах нязменна прысутнічаюць яскравасць фарбаў і звонкасць. Звычайныя эпітэты, ужытыя да месца, лёгка ўспрымаюцца. Усё гэта пісаў юнак, вельмі эмацыянальны, з чулай душой, надзвычай захоплены, калі пачуцці льюцца, як кажуць, цераз край. І наўрад ці правамерна, як гэта рабіў сёй-той з крытыкаў, успрымаць падобныя творы толькі як наіўныя. Да ранніх твораў В. Маракова трэба ставіцца больш уважліва, прымаючы пад увагу ўзрост аўтара, які яшчэ ў многім не знайшоў сваіх сцежак і ў жыцці, і ў творчасці. Наступныя ж творы, якія склалі кнігу “Вяршыні жаданняў”, што выйшла ў 1930 годзе, сведчаць аб тым, што талент паэта пасталеў. Ён развітаўся са сваімі ранейшымі настроямі “тугі і бездарожжа”. Ён зразумеў, што сучаснасць патрабавала новых песень. І гэтыя песні ў яго з’явіліся. Але В. Маракоў усё адно трапляў пад “абстрэл” крытыкі.

Паэта няма, але паэт — жыве. І лепшыя творы В. Маракова — найлепшае таму сведчанне. А ў іх ён застаўся такім, якім і быў у жыцці — маладым, узнёслым, тонкім лірыкам:

*Сёння ўсё —*
*Гэты хвойнік і Свіслач,*
*Да сябе заклікаюць пажыць.*
*Колькі стройных бяроз панавісла*
*Над вадой і на грудзі мяжы!..*
*Гэта межы спыталі ў сэрца:*
*— Ці ж не ты хочаш піць гэту ціш?*
*Усё маўчыць,*
*Не дыхне, як пры смерці,*
*Ну, а ты?.. Ты таксама маўчыш!*
*Ну і што ж, калі промняў так многа,*
*Срэбны месяц каханнем гарыць!*
*Годзе песень, разгулу, трывогі,*
*Хоць хвіліну адну так пажыць!..*

Мне думаецца, што В. Маракоў — з тых творцаў, якім заўсёды жыць у літаратуры.

**Людміла ГЕРАСІМЁНАК,**
**настаўніца рускай мовы і літаратуры**
*г. Санкт-Пецярбург*

## Каб любіць Беларусь нашу родную…

Спрыяе ў гэтым чытачам часопіс "Нёман", пастаянна друкуючы шмат цікавых матэрыялаў, прытым, як вядома, на "общепонятном языке". Не выключэнне — і сакавіцкая кніжка за сёлетні год. "Пад знакам шчасця і бяды" — так назваў С. Законнікаў свой уступ да публікацыі вершаў Я. Янішчыц. Паэзія прадстаўлена таксама творамі У. Марука, С. Явар, А. Дубdroўскага і рускамоўнага пата Г. Сарокі. У раздзеле прозы — апавяданне А. Кудраўца "Баёк", аповесць А. Федарэнкі "Салдат", "Таіландскія эцюды" А. Глобуса і іншыя творы. Пра першага ў свеце касманаўта Ю. Гагарына — развагі А. Сульянава "Не мог не лятаць". Змешчаны артыкулы Я. Рубіна "Жанчыны: формула шчасця", П. Казло "Вяртанне зубра", І. Шаўляковай "Зона метафары", старонкі з дзённіка А. Пісьмянкова "Думаць вершы", рэцэнзіі на новыя кнігі…

## Спонсары не пераўляліся…

Магілёўскі паэт Васіль Карпечанка выдаў у абласной друкарні тры новыя кнігі. Кнігу "Боль" складаюць вершы і апавяданні пісьменніка-франтавіка на ваенную тэматыку, змешчаны ў ёй і пераклады твораў рускіх паэтаў. "Толькі з табою" — так назваў аўтар кнігу вершаў, якія сталі песнямі. Прадстаўлены ў ёй і кампазітары: Уладзімір Браілоўскі, Мікола Яцкоў і многія іншыя. Кніга "Крылаты будзільнік" прапануе вершы-загадкі дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

Спонсарам гэтых кніг стала агрaгандлёвая фірма "Днепр" Магілёўскага раёна, з якой В. Карпечанку звязваюць даўнія творчыя сувязі.

Уладзімір ДУКТАЎ

## Ушанавалі памяць Алеся Бачылы

Шматграннасць, шырыню набывае літаратурна-асветніцкая работа на Пухаўшчыне. І ці не найперш — дзякуючы руплівасці мясцовых уладаў. У памяці пухаўцаў — леташнія ўрачыстасці ў знак 115-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа.

Вось і сёлета землякі дастойна ўшанавалі 80-годдзе з дня нараджэння Алеся Бачылы. Вялікая літаратурна-мастацкая вечарына прайшла ў Мар'інай Горцы. Да пухаўцаў наведаўся і сын пісьменніка — Барыс Бачыла. Ён, між іншым, значную частку бацькавага архіва перадаў у Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей.

Сваімі ўражаннямі ад творчасці паэта, успамінамі пра сустрэчы з А. Бачылам падзяліліся пісьменнікі Алесь Савіцкі, Віктар Супрунчук, Анатоль Жалязоўскі, крытык, літаратуразнаўца Янка Казека. Пра знаёмства з А. Бачылам расказала і жыхарка Мар'інай Горкі настаўніца-пенсіянерка Лідзія Іосіфаўна Новік.

Да згадкі пра вечарыну, відаць, варта дадаць, што ў рабоце па прапагандзе творчасці пісьменнікаў-землякоў вялікая заслуга дырэктара раённага краязнаўчага музея Аляксандра Прановіча, а таксама загадчыка аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама Яўгена Сушко.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## У імя сяброўства

Сербалужыцкі пісьменнік Кіт Лоранц у 1965 годзе наведаў нашу краіну і, безумоўна, атрымаў нямала прыемных уражанняў. Імі і падзяліўся ў вершах, што склалі цыкл "З падарожжа ў Беларусь". А знаёмства з "зямлёй пад белымі крыламі" падштурхнула К. Лоранца ўзяцца за пераклады твораў беларускай літаратуры. У выніку на верхнялужыцкай мове з'явілася "Паўлінка" Янкі Купалы (пераклаў разам з А. Наўкам), асобныя вершы таго ж Я. Купалы, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Аляксея Зарыцкага… Загучала па-беларуску і паэзія К. Лоранца. Яго перакладалі Максім Танк, Аляксей Зарыцкі, Ніл Гілевіч, Алесь Траяноўскі.

У гэтыя дні наш сербалужыцкі сябра адзначыў сваё 60-годдзе. Застаецца толькі павіншаваць яго з юбілеем і пажадаць, каб і надалей памятаў К. Лоранц пра беларускую зямлю, дзе знайшоў сяброў, і пра нашу літаратуру, якую палюбіў.

ПАЭЗІЯ

Ніл ГІЛЕВІЧ



## "І дай вам Бог аднойчы зразумець…"

### Сямірадкоўі

●

*Майстры падножак,*
*плёттак і паклёпаў!*
*Вы ўжо даруйце мне, што не магу*
*Плаціць вам гэтым жа. Не маю дару*
*Кляпаць даносы, падстаўляць нагу.*
*І дай вам Бог аднойчы зразумець,*
*Чаму я тым жа коштам*
*не плачу, —*
*Чаму гляджу журботна і маўчу.*

1997, снежань

●

*Ізноў, як і тады, як у вайну,*
*І як пасля вайны не год, не два, —*
*Увесь наш быт, і дом наш, і сям'я —*
*Ізноў усё трымаецца на слабых*
*Плячах жанок. Ізноў — усё на бабах!..*
*"Бо трэба ж жыць!*
*І мець хоць на кулеш…"*
*Але ж і лёс! Але ж і край! Але ж…*

1998, сакавік

●

*Вось і ўсё… І круглай сіратою*
*Засталася… Б'ецца ў фортку вецер.*
*Ці душа матулькі?.. Глуш і стынь.*
*Як няўтульна стала ў людным доме!*
*Як няўтульна стала ў родным краі!*
*Як няўтульна стала ў белым свеце —*
*Анямелым, вусцішна-пустым!*

1998, сакавік

●

*Ён думаў, што іх выплакаў усе,*
*Што больш няма іх у яго, што сэрца*
*Акамянела ад пакут наскрозь.*
*А іх дзесь раптам узялося столькі,*
*Што хваляй хлынулі*
*ўначы да горла —*
*І ён не справіўся… І задыхнуўся —*
*Ад іх, сваіх нявыплаканых слёз.*

1998, сакавік

●

*Перад грубкай, затопленай нанач,*
*Зноў сам-насам з вячэрняй тугой.*
*Гучна трэскаюць дровы — няйначай*
*Мне гавораць: "Ты марна стараешся*
*Згадкі сэрца, адну за другой,*
*Нібы стрэмкі, кідаць у агонь…*
*Марна, брат. Не згараць.*
*Не пазбавішся".*

1998, сакавік

●

*Сваю паэму, першую ў жыцці,*
*Чытаю першай у жыцці слухачцы.*
*І раптам — збіўся на радку,*
*запнуўся*
*І паўтарыў яго, і на наступным*
*Таксама збіўся, і на трэцім зноў…*
*Не дачытаў бы, каб не збеглі прэч*
*Гарэзы-пальчыкі з маёй чупрыны.*

1998, сакавік

●

*Калі я нават два вякі звякую*
*І зведаю прысмакі ўсіх застолляў —*
*За бульбіну гарачую, якую,*
*Мундзір злупіўшы, прыпарошу соллю,*
*Смачнейшай стравы*
*для мяне не будзе.*
*Вышэй і ў вершах мне сягнуць*
*не ўдасца.*
*Якая ж трэба ад мяне вам трасца?*

1998, сакавік

●

*О, сябры, таленавіта-розныя*
*Песнятворцы міжчасоўя шэрага!*
*Летапісцы мітынгаў з адозвамі*
*І рапсоды прыцемку таршэрнага!*
*Пацярпіце і даруйце мне,*
*Што ля вас, пакуль хаджу-ківаюся,*
*Я яшчэ крыху пааціраюся.*

1998, сакавік

### Прымхліца-былічка пра злога духа

*Што б там хто ні лахаў —*
*Бог мой лёс пазначыў:*
*Шмат я ўсякіх страхаў*
*За жыццё пабачыў.*

*З тым і знікну, думаў.*
*Больш ужо — на д'ябла!*
*Не! — і злога духа*
*На табе наглядна!..*

*Я выходзіў з парку,*
*Раптам напярэймы*
*Выскачыла ў арку*
*Дзіўнае стварэнне.*

*Нелюдное вельмі*
*Нейкае страшыдла:*
*Вочы — як патэльні,*
*Нос — як чапярыдла.*

*Зіркнула злавесна,*
*Агаліла іклы,*
*Прахрыпела нешта*
*І, як прывід, знікла.*

*Я знямеў спачатку,*
*Але ўспомніў тут жа*
*Грознае ў выпадку*
*Бабчына "аружжа":*

*"Соль табе у вочы!*
*Галавешка ў зубы!*
*І дзяркач між сцёгнаў!*
*Каб ты здох ад стогнаў!"*

*Я прамовіў тройчы*
*Гэты кленіч бабчын,*
*Сплюнуў і пакрочыў*
*Крокам неабачным.*

*Што мне той нячысцік,*
*Дух той злы, нядобры!*
*Можа, сам я чымсьці*
*На яго падобны.*

*Можа, колісь дзесьці*
*І мяне хто-небудзь*
*Выкляў, паглядзеўшы,*
*Як пачвару-нелюдзь.*

*І таксама тройчы*
*Прашаптаў для згубы:*
*"Соль табе у вочы!*
*Галавешка ў зубы!.."*

*Бо чаму ж нястрымна —*
*З воч капеж салёны?*
*І чаму так дымна*
*Вусны засмылёны?*

1998, сакавік

### Насарогі

*Сыйдзіце! Сыйдзіце*
*З дарогі! З дарогі!*
*Не бачыце хіба?*
*Ідуць насарогі!*

*Асобіны ў цвёрдых,*
*Як панцыры, скурах —*
*Атрада капытных,*
*Разрада панурых.*

*На выгляд — нязграбы,*
*У рухах — няўклюдасць.*
*А ў зрэнках імглістых —*
*Прадонная лютасць.*

*Нястрымнаю сілай —*
*Сляпою, тупою*
*Ідуць па саване*
*Цяжэзнай ступою.*

З ПОШТЫ

Віталь ПЯТРОЎСКІ

### Голуб

*Ускудлачаны голуб*
*хапаецца кіпцямі*
*за аблездзянелую зямлю.*
*Няма табе больш*
*чым за яе ўхапіцца,*
*ускудлачаны голуб.*
*Адно мяне цешыць:*
*калі ты сарвешся,*
*цябе падхопіць неба.*

### Ідэнтыфікацыя

*Дрэвы — трэшчыны на небе,*
*Сонца — трэшчына ў сусвет,*
*Рэчка — трэшчына на глебе…*
*Трэшчына ў людзях — паэт.*

Міхась ПАЗНЯКОЎ

●

*У парку паляць лісце,*
*І яно*
*Дыміцца, курчыцца паволі.*
*Так, згадваю,*
*Было ў жыцці са мной,*
*Калі душа сцiналася ад болю…*
*Агонь знішчае*
*Лета прыгажосць,*
*Як некалі*
*Падман знішчаў каханне…*
*Ды ў тым,*
*Што хараство зямное — госць,*
*Пакута наша і*
*Выратаванне…*

●

*Сцяжынка. Поле. Ні душы.*
*Адзін прад вечным Богам…*
*О, колькі ж гэта многа! —*
*Сцяжынка. Поле. Ні душы…*

*Знікае сумная трывога.*
*Утульна, хораша ў глушы.*
*Сцяжынка. Поле. Ні душы.*
*Адзін прад вечным Богам…*

Алена ІГНАЦЮК

### Я птушка вольная

*Я птушка вольная,*
*А ты — маё крыло.*
*Ляцім павольна ў белым часе.*
*Зусім нядаўна*
*І зусім даўно*
*Была ліцвінкай я,*
*А ты — Вялікім князем.*

*Не жонка я табе*
*І не сястра,*
*Але такая родная жанчына…*
*Хай толькі Вецер*
*Прыйдзе з-за Дняпра,*
*Спыню яго яцвяжскімі вачыма.*

*Ты не аўстрыец, князь…*
*і не паляк.*
*Я бела-русая прыгожая жанчына,*
*Бо жыў і на маёй зямлі яцвяг,*
*Насіў з сабою сонца за плячыма.*

### Вецер

*Ён з галінкі на галінку*
*абрыкосавага лета.*
*Ён з хвілінкі на хвілінку*
*ў часе моднага паэта.*
*Ён пачаў свой лёт няўмела,*
*то кругамі,*
*то з падскокам…*
*Растрапаў сухое сена..,*
*нібы злодзей — бокам, бокам…*
*Ён па вуліцы прамчаўся*
*хваляй сонца,*
*хваляй неба.*
*І ў сялянку закахаўся.*
*Тая — што багіня Геба.*
*Калі вёска снедаць села,*
*абтрасаў у садзе сліву.*
*Ён ў лета крочыў спела.*
*Быць хацелася шчаслівым.*

*Аж жутка — як грузна,*
*Як грозна прастуюць!*
*Наскрозь прадзіраваць!*
*Яшчэ і здратуюць!*

*Таму — сцеражыся,*
*Бяскрыўдны, рахманы,*
*Насельнік саваны,*
*Багамі хаваны.*

*Пакуль ты з іх ласкі*
*Жывы і здаровы —*
*Схініся з дарогі!*
*Схініся з дарогі!*

1998, сакавік

## Пішыце дзённікі, паэты!

*Пішыце дзённікі, паэты!*
*З бясстрашнай фігай у кішэні,*
*Кляйміце ганьбай прайдзісветаў,*
*Што так нахабна расшышэлі!*

*Пішыце, мілыя! І ў скрынку,*
*У стол хавайце іх, каб потым*
*Чытач-нашчадак горда ўскрыкнуў:*
*"Вось быў змагар!*
*Вось быў апостал!*

*Як не цярпеў*
*ён служкаў здрады,*
*Што край прадаць былі гатовы!*
*Якія гнеўныя тырады*
*Абрынуў ён на іх галовы!.."*

*Пішыце! І, каб не спазніцца*
*І не ўпусціць бяздарна шанцу,*
*Хутчэй бяжыце пакланіцца*
*І ў ручку цмокнуць запраданцу.*

*Пасля кульніце дома чарку,*
*І нават дзве — як пад закуску.*
*І гэта будзе — ад пачатку*
*І да канца — па-беларуску.*

1997—1998

## Сігнал на сан. эпідэм. станцыю

Да пытання аб "пятай калоне" ў Беларусі.

*Увага! Увага!*
*Злачыннай*
*Агрэсіі акт на чарзе:*
*Па целе культуры айчыннай*
*Тыфознае нешта паўзе!*

*Пад імпер-чырвонай*
*Заслонай,*
*Ташнотна-знаёмай даўно,*
*Глядзіце, каб "пятай калонай"*
*Не стала ў дзяржаве яно!*

1998, сакавік

*Як ляцела аблачынка,*
*ў небе ластаўка ляцела.*
*І ўсяго адна дажджынка*
*пчолкай смачны яблык ела.*
*А ён думаў пра другое:*
*пра царкву ў блакітным лесе.*
*Там, далёка і высока,*
*пачыналася Палессе.*

Тамара БАРАДЗЁНАК

## Купальскае

*Песня дзесьці чуецца далёкая*
*І плыве над ціхаю ракой.*
*З берага дзяўчына яснавокая*
*На ваду вянок пускае свой.*

*Кветкі рвала з яркімі галоўкамі,*
*Каб вяночак потым сабе звіць.*
*Не пайшла да вогнішча з сяброўкамі,*
*Да ракі прыбегла варажыць.*

*Хай плыве вяночак, не спыняецца*
*У той бок, дзе мусіць быці той,*
*Чые словы ёй не забываюцца,*
*Праз якога страціла спакой.*

*Сэрца смуткам і надзеяй поўніцца,*
*А вяночак па вадзе плыве.*
*Хай, што загадае, тое споўніцца*
*Ночкаю купальскай у яве.*

ПРОЗА

### ВІТРАЖ

Хоць і дрэнна жылі ды і зараз не шыкуюць дужа мае салаўцы, аднак любяць адмачыць нумарок і "пахахміць". Каго ні вазьмі, дык не тым, дык другім кожны памятаецца. Мікалай Серада, па-вясковаму Кацай — такі ўжо анекдатыст і музыка, без якога не абыходзіліся ні вяселлі, ні радзіны, ні іншыя гасціны. Не меншую знакамітасць атрымаў, дзякуючы крутой натурцы, і Панас, па мянушцы — Змей. Цімоха Піндзюра таксама вылучалі жарцікі і выдумкі. І Васіль-Міністр меў вядомасць балбатуна і манюкі. Не без усмешкі згадваецца Анань Трус. Рыжавусы, канапаты, ухмылісты, ён кпіў з усіх. Ягоныя прыпеўкі і дасюль у вяскоўцаў на языку:

***Старшыня наш — свет не бачыў!***
***Ён у шапку век не спаў:***
***паўкалгаса прасцулячыў,***
***а астатняе пакраў.***

Хапае ў Салаўі выскалякаў, дзівакоў, комікаў і сёння. Не буду велічаць іх сапраўднымі імёнамі, а з-за боязі ўкрыўдзіць чымсьці — перахрышчваю на іншы манер.

### НЕПЕРАБОРЛІВЫ

Вярнуўся Міхась Галуза з грыбоў.

— Ну й дабра прынёс, — забурчэла жонка. — Зміток вунь, люба зірнуць, нахапаў: баравікоў, падасінавікаў. А ты — цьфу: груздоў, ваўнянак налупіў...

— Калі б я пераборлівым быў, — перапыніў муж, — ты б дасюль у дзеўках хадзіла.

### ВЫЯСНІЛІ

— Сволач ты!
— Ад такога і чую.
— Цьфу на цябе!
— Цюцьку пад хвост плюнь.
— Злодзей ты!
— А ты... ты — камуніст!

Выяснілі такім макарам, хто ёсць хто.

### ДЗЕ МАЯ ХАТА?

Прыслепкам грымнуў Ахрэм вёдрамі — па ваду падаўся.

Толькі выткнуўся за весніцы — бачыць, постаць сярод вуліцы ківаецца.

— Гэй, дзед! — гукае яна. — Дзе тут Хвёдар Шпак жыве?

Падыходзіць стары бліжэй і ўсклікае:

— Дык ты ж ён і ё!

— Гэта і без цябе ведаю. Я пращу — укажы маю хату.

### ДОБРЫЯ ЛЕКІ

Сярод квецені пад гарой рачкуе Уліта.

— Што шукаеш там? — непакоіць яе з логу Прося.

— Святаяннік збіраю.
— На ліха ён табе?
— Чула — добрыя лекі.
— Ад чаго?
— Кажуць, ад ста хвароб дапамагае.
— Якіх?
— Не ведаю.

### КЛЯЦЬБА

Сварацца Уліта і Ганна:

— Хай бы ты ў вадзе стаяла і вады прасіла!

— Каб вы на адну палучку жылі!

— Спіўся б твой мужык!

— Кінуў бы цябе Пятрок і з Лізай Міходзькавай скруціўся б!

— Нарадзіць бы тваёй дачцэ двойню!

— Пашлі вам Божа гасцей кожную нядзельку!

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Пятрок пытае ў Саўкі:

— Што такое палітыка? Гавораць, дужа тонкая штука.

— Ты калі бачыў камарыны струмень?

— Н-не-э.

— Дык во — яна яшчэ танчэйшая.

### ШКАДАВАННЕ

Захар — Саўку:

— Малайцы нашы дэпутаты. Калі ні паслухаеш — заўсёды залатыя горы абяцаюць.

— Мы нічога таго не ўбачым.

купіць і паменціць языкамі, Уліта страчае Зіну.

— Дзе ета маці твая прапала? Не паказваецца і не паказваецца.

— Дома яна.

— Мы ж з ёй пасварыліся апошні раз.

— Хвароба зваліла яе.

— А я гляджу — не відно. Думаю, укрыўдзілася на мяне, качарэжка старая.

— Не. Пластам ляжыць.

— Во і слаўненька! Ну то і добра!

### РАСЧАРАВАННЕ

Зазірнула Зіна да Просі.

— Ратуй, цётачка! Дай што ад галавы — расколваецца.

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

# СОЛАЎЦЫ — МАЕ ЗЕМЛЯКІ



— Дзеці дажывуць.

— Дзяцей вось і шкада — ашукаюць іх абраннікі.

### АБУРЭННЕ

Хвёдар брыў, хістаўся, пакуль у слуп не ўрэзаўся.

— Аслеп, блін? — вылаяўся. — Не можаш па-чалавечы размінуцца? Не скардзіся цяпер, падла!

### ПАГРОЗА

Перад раніцай маці сустракае Таню:

— Са Стасем мілавалася?!
— Пастаяла трошкі.
— Зноў рыштант рукі распускаў?!
— Распускаў.
— Чаму не крычала?
— Ён запалохаў мяне.
— Ах, нягоднік! Чым?
— Сказаў, што як разяўлю рот — больш не пацалуе.

### СКАРГА

— Вязе табе, Ларывонавіч! — уздыхае перад Лявонам Хвёдар Шпак. — Проста завідкі бяруць! Гляджу: і Бог спрыяе, і чорт дагаджае.

— Пазайздросціў лысы пляшываму. Адкуль узяў?

— Ці не бачна? Шчаслівы ты! У сарочцы нарадзіўся. Нікому з табой не зраўняцца. Усё ў цябе пучком.

— У чужых руках заўжды кус большы. Гэта здаецца толькі. На сябе зірні.

— Здзекуешся, дарагі! Я — няўдачнік.

— Не прыкідвайся казанскай сіратой.

— Павер: абдзяліў мяне Навышні.
— Чым?
— Не даў тваёй жонкі.
— От знайшоў цану! Баба і баба.
— Э, не. Твая Зіна — у!
— Не горшых жа меў. І не адну — тры.
— Не пашэнціла мне, Ларывонавіч, з імі.
— Мусіць, сам вінаваты.
— Каб жа сам. Нялюдскімі яны аказаліся.
— Хто б падумаў! Чаму?
— Ведаеш жа: Лёдзя пагрэбавала мной — збегла прэч.
— А Наташа?
— Наташа — наадварот, выгурыла мяне.
— Затое Зося — чалавек.
— Во каб жа.
— Таксама дрэнная?
— Дурніца яна.
— Чаго?
— Бо дасюль са мной жыве.

### РАДАСЦЬ

У магазіне, куды звычна сцякаюцца кабеты з усяго Солаўя, каб штосьці

— Ё толькі таблеткі ад паносу.

— Дык у мяне жывот у поўным парадку.

— Шкада! А такія слаўныя лекі!

### ПА САКРЭЦЕ

— Вось ты, Міходавіч, чалавек падкаваны на ўсе чатыры, — хваліць Захар Саўку.

— Дапусцім, — адкапылвае той губу.

— Тэлевізар глядзіш, газеты чытаеш, — працягвае дружбак. — Словам — палітык!

— Само сабой, — важнічае Саўка.

— То скажы па сакрэце: Машэраў добры быў кіраўнік?

— Бясспрэчна.
— А Кебіч?
— Кебіч — камуніст.
— Ну, а Шушкевіч?
— Гэты... гэты — дэмакрат.
— Дрэнныя, значыцца, абодва. Хто ж Лукашэнка наш?
— Калі выберам новага прэзідэнта — тады даведаемся.

### ЗАПОЗНЕНАЕ ПРЫВІТАННЕ

Яшчэ здалёк Уліта ўсачыла Пёклу.

— Хадзі сюды хутчэй! — пазвала яна яе. — Раскажу табе нештачка.

— Ну? — падляцела тая.

— Нічога не ведаеш?

— Гавары, не мучай! — заняцерпілася Пёкле.

— Хведзька ж Шпак развёўся са сваёй!

— Чула ўжо.

Сяброўка папярхнулася, але не звяла, а наадварот, гучна ўсклікнула:

— Вой, мы ж, здаецца, не павіталіся. То здароў была!

### ЗНАЙШОЎСЯ

Проста з трактара Міхась Галуза ўваліўся у магазін, каб цыгарэт купіць. Краем вока на вітрыне ён выглядзеў сарочку.

— Пакажы, — папрасіў прадаўшчыцу. — Дай прымераць.

— У цябе рукі брудныя.

— Затое ў кішэнях чыста!

### ПРЫЕМНАЯ РАЗМОВА

Захар мудраваў новы ганак. Прыкідваў, замяраў, пілаваў, габляваў і, быццам сам сябе падахвочваў, прастарэкаў:

— Так, так. Добранька. Малайчына! Цяпер тут урэжам і прыб'ем гэтую дошчачку. Замест двух прыступак зробім тры. Лягчэй узнімацца будзе. Бо што ні кажы — ногі ўжо не тыя.

— Чаго там разгаварыўся? — спытала з сянец жонка.

— А ці нельга паталкаваць з разумным чалавекам? — не засмуціўся, адказаў гаспадар.



мы, сыгранай з пазатэкставай здагадкай аб перажытай духоўнай драме гэтага чалавека...

І ўсё ж акцёр напярэдадні свайго 60-гадовага юбілею не пабаяўся прызнацца: Купалаўскі тэатр не быў "ягоным" тэатрам. "Я — іншы акцёр. Мяне ж гледачы бачылі ў адным вымярэнні. Я многа пераіграў свяшчэннікаў, жабракоў, дзіўных людзей... У тэатры мала ідзе класікі. Акцёр без класікі задыхаецца".

Але, можа, рэч не так у класіцы, як у тым, што тэма інтэлігенцыі як праблема, як агульназначная з'ява, не дужа часта ставала сюжэтам, мастацкай тэмай нацыянальнага тэатра? Яго займалі сацыяльныя, сацыяльна-бытавыя, публіцыстычныя пытанні. Нават народная праблематыка трактавалася як сялянская... (Невыпадкова дамінуючыя жанры беларускай драматургіі — народна-гераічная драма, сатырычная камедыя, сацыяльна-бытавая драма.)

Такім чынам склалася аб'ектыўная сітуацыя. Акцёр на ролі Дастаеўскага, Чэхава паступова выпадаў з эпіцэнтра мастацкіх падзей...

"Жыццё не заўсёды складваецца як марылася, як хацелася, — сведчыў Ф. Варанецкі. — Тэатр — гэта шматскладаны арганізм і ўсім там хораша не бывае. Таму я па-філасофску прымаю той факт, што я нечага не сыграў. Але я лічу, што здзейсніўся як акцёр, нягледзячы ні на што, папрацаваўшы з 57 рэжысёрамі. Цяпер я думаю над роллю Гавэла ў п'есе "Аўдыенцыя". Значыць — зноў надзея?..

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

*На здымках: са С. Станютай у "Раскіданым гняздзе" Янкі Купалы (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы);*

*Здымкі з архіва Ф. Варанецкага*

# Маналог пра тэатр і пра сябе

"Ці любіце вы тэатр так, як люблю яго я?"

Гэтыя словы арганічна гучаць і з вуснаў пачынаючай актрысы, і з вуснаў прымадонны. Галоўнае, каб за імі была сапраўдная любоў, і гаварыла іх сапраўдная актрыса.

У гледачоў прэм'ернага спектакля "Маналогі" ў апошнім сумненняў не ўзнікае. Словы Ніны Зарэчнай гаварыла выканаўца гэтага монаспектакля Аляксандра Клімава.

Аляксандра Клімава — актрыса, якая мае ўсе магчымыя званні і ўзнагароды, пра яе зняты фільмы і напісаны кнігі, яе выбітны драматычны талент скарыў не адно пакаленне мінскіх гледачоў. Вучаніца знакамітай рускай актрысы В. Пашэннай, яна воляю лёсу апынулася на Беларусі, і тут на сорак з лішнім гадоў звязала свой лёс з Акадэмічным рускім тэатрам імя Горкага. У рэпертуары актрысы — самыя славутыя жаночыя ролі: Клеапатра, лэдзі Макбет, Марыя Сцюарт з п'ес Шэкспіра, Ларыса з "Беспасажніцы" А. Астроўскага, Раneўская з "Вішнёвага саду" Чэхава, фру Алвіс са "Зданяў" Г. Ібсена і многія іншыя. Актрысе апладзіравалі на многіх сцэнах свету, яна дабілася сапраўднага поспеху...

Але — як гэта сумна для творчага чалавека, калі пра яго творчасць пачынаюць гаварыць у мінулым часе. Аляксандра Клімава працягвае сваю працу ў рускім тэатры. З'яўляюцца — хаця і не так часта, як раней, — новыя ролі... На той жа сцэнічнай пляцоўцы сцвярджаецца талент сына актрысы — артыста Андрэя Душачкіна. Але старыя, любімыя ролі, як верныя сябры, не пакідаюць актрысу, яны — частка яе асобы, якая мае права на жыццё.

І актрыса Аляксандра Клімава прыйшла ў тэатр, які дае магчымасць кожнаму здатнаму выявіць сябе, заняцца асобным творчым пошукам — у беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч". Мастацкі кіраўнік тэатра Галіна Дзягілева з радасцю адклікнулася на прапанову знакамітай актрысы, тым болей што з тэатрам ужо меў вопыт супрацоўніцтва Андрэй Душачкін. І ў выніку нарадзіўся спектакль "Маналогі". Рэжысёр спектакля — Галіна Дзягілева. Спектакль складаецца з урыўкаў любімых роляў Аляксандры Клімавай — Раneўскай, Клеапатры, Марыі Сцюарт, Патрык Кемпбел ("Мілы лгун"), аб'яднаных адной тэмай — Тэатр. Узаемаадносіны Тэатра — і Актрысы. Трагедыя творчага чалавека, які адчувае, што жыццёвы шлях амаль пройдзены, а засталося столькі недагаворанага, нерэалізаванага... Свет мастацтва — жорсткі свет. Законы сцэны — бязлітасныя. Гады змяняюць ролі і амплуа, а гледачы патрабуюць ад артыстаў поўнай аддачы сілаў; яны маюць права на гэта — і тут не можа быць скідкі на хваробу артыста, асабістыя абставіны, узрост...

Але сапраўдны акцёр не можа не іграць! Пазбавіць яго магчымасці выходзіць на сцэну — значыць пазбавіць яго — усяго; самога жыцця. Гэтыя думкі выразна данесла да залы выканаўца "Маналогаў" — з сапраўднай страсцю і натхненнем, так што сцэнічнае дзейства часам здавалася жыццятворчым, а словы ад імя гераінь — вымаўленымі ад імя самой актрысы.

У якасці музычнага фону спектакля выкарыстаны запіс вядомага раманса "Нет, не любил он..." з "Беспасажніцы" Астроўскага ў даўнім выкананні Аляксандры Клімавай — Ларысы. "Он говорил мне — будь ты моею... Нет, не любил он..." — гэта ўсё зноў пра яго, пра Тэатр... Свет чароўны — і жорсткі. Які забірае ўсё дарэшты — а дорыць толькі ілюзію.

Па-рознаму можна ставіцца да таго факта, што прымадонна, спазнаўшы доўгую славу на "вялікай" сцэне, ідзе на сцэну маленькую, камерную, дзе не будзе мець таго рэзанансу, як некалі, і спрабуе ўзнавіць тыя ролі — водбліскі роляў — што некалі прынеслі ёй славу і вядомасць. Але спектакль нарадзіўся. І ў яго ёсць свой глядач. Ідуць паглядзець ігру любімай актрысы сталыя мінчукі, ідуць, каб успомніць і сваю маладосць, і ўпэўніцца, што яна — не скончылася. Ідуць маладыя — каб далучыцца да самой гісторыі тэатра.

Спектакль ёсць, і, як кожны жывы арганізм — ён развіваецца, пазбаўляецца непатрэбнага, набывае нешта новае. Думаецца, супрацоўніцтва Аляксандры Клімавай і тэатра "Зніч" будзе плённым для іх абодвух, і тым больш плённым — для беларускіх тэатралаў.

**Н. К.**

# Помняць імя музыканта

Рэквіем Антаніна Дворжака не ўпершыню гучаў у зале сталічнай філармоніі. І зноў яго выконвалі Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы. Дырыжыраваў народны артыст Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Генадзь Праватораў. Саліравалі студэнтка Акадэміі музыкі Людміла Лазарчык, артысты оперы, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Таццяна Варапай, Рыгор Палішчук, Алег Мельнікаў.

Маг і чараўнік Генадзь Праватораў настолькі быў захоплены цудоўнай музыкай Дворжака, што нават не заўважыў, як і сам ціхенька заспяваў — як калісьці славуты Артура Тасканіні. Ён увесь — постаць, рукі, вочы, усе рухі былі ў музыцы, нібыта ў гэты момант нічога іншага не існавала, толькі музыка і створаныя ёю цудоўныя вобразы. Выканаўцы ярка, выразна, эмацыянальна раскрылі змест твора, перадалі яго малітоўны настрой.

Рэквіем А. Дворжака ўпершыню выконваўся ў Мінску летась (тады дырыжыраваў Інга Эрнст Райль). І тады, і цяпер выкананне было прысвечана памяці вядомага беларускага музыканта, народнага артыста рэспублікі Юрыя Яфімава, які 21 год стаяў за пультам сімфанічнага аркестра Беларусі, быў яго галоўным дырыжорам. Сем гадоў яго няма з намі. Выпускнік Ленінградскай кансерваторыі, ён меў фенаменальную музычную памяць, абсалютны слых. Пад ягоным кіраўніцтвам выконваліся сімфанічныя творы Чайкоўскага, Моцарта, Брамса, Гайдна, Бетховена, Брукнера, Малера, шэраг твораў беларускіх кампазітараў. 37 разоў дырыжыраваў Юры Яфімаў Рэквіемам Вердзі ў выкананні Ленінградскага аркестра. Дзеля гэтага яго спецыяльна запрашалі ў горад на Няве. Многія вядомыя музыканты выступалі з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава.

Сёлета, у сезон 60-годдзя Белдзяржфілармоніі, музыканты, паклоннікі таленту Юрыя Міхайлавіча Яфімава ўспамінаюць яго добрым, шчырым словам.

**Вера КРОЗ**

канай для сябе высновы: усе мае мары пражыць за кошт творчасці робяцца міражом. Вырашыў: палётаў у марах, пара прызямляцца.

І падаўся я тады ў калгас "Новы шлях". Прыняў мяне тагачасны старшыня Ягор Якаўлевіч Краўцоў (ён вельмі любіў жывапіс) загадчыкам клуба і мастаком-афарміцелем. У 1964 годзе зрабіў я ў Добрушы персанальную выставу, былі добрыя словы на мой адрас, дыпломы, нават па тэлевізары паказвалі. На рэспубліканскай выставе ў 1964-м дзяржаўны музей купіў у мяне партрэт калгасніка Сівухіна. І я, натхніўшыся, пачаў зноў вазіць свае работы ў Гомель. Але мае спробы зноў закончыліся сумна. На гэты раз адбіў мне ахвоту пэцкаць палотны на дзесяць гадоў Мікалай Казакевіч, заявіўшы, што мне як мастаку самадзейнаму лепш самадзейнасцю і займацца.

І я зноў апусціўся на тое месца, з якога толькі што ўстаў. Шэсць разоў рабіў выставы ў Добрушы, раз — Церахаўцы, двойчы — у гаспадарках раёна.

Неяк у 1988 годзе на пленэры ва Ушачах, на Віцебшчыне, сустрэўся з мінскім мастаком Уладзімірам Маскоўскіх, ён параіў яшчэ раз паспрабаваць шчасце: раз у Гомелі "ціснуць" — прывозь, маўляў, у сталіцу свае карціны разам з іншымі гомельскімі мастакамі. Тонкая нітачка надзеі парвалася гэтак жа нечакана, як і ўзнікла: у худфондаўскім аўтобусе, які ехаў у Мінск, мне месца не знайшлося. Звярнуўся да Пакаташкіна: вазьмі хоць бы маю работу "Расстрэл ворагаў народа". Паабяцаў, але ў Мінск мая работа так і не трапіла, засталася ў майстэрні Пакаташкіна ў Гомелі.

Надзея, кажуць, памірае апошняй. Даведаўшыся, што ў дзяржаўным музеі аб'яўлены аўкцыён па продажы карцін, я паспрабаваў прадставіць там свае карціны. Зноў — асадзі назад. Затое ў мінскім мастацкім салоне тры карціны ўзялі, добра за іх заплацілі.

Я напісаў заяву ў вобласць з просьбай дазволіць зрабіць мне сваю персанальную выставу ў Гомелі. Чакаю адказу. Але ж мы гаворым пра рынчныя адносіны! Я разумею гэта так: менавіта рынак, попыт сапраўдных знаўцаў мастацтва на карціны павінен рабіць мастака.

Ніколі не любіў выхваляцца. Але ж мае работы купляюць нядрэнна. Толькі ў 80-х гадах я прадаў іх каля ста. У тым ліку — у Веткаўскі музей, абласное ўпраўленне культуры, райвыканкам, для музея імя Кухарава, што ў гарадской школе N 2, а таксама ў суседнюю Расію. Прадаю даўно свае карціны і ў мастацкім салоне ў Гомелі. Цяпер не застойныя часы, калі палітыку ў мастацтве рабілі кланы! Чаму ж падыходы да ацэнкі творчасці таго ці іншага мастака застаюцца ранейшымі?! Да мінулага навагодняга свята вазіў я на выстаўкам у Гомель сваю карціну "Мастак". Не ўзялі. З выпадку дзесяцігоддзя Чарнобыля накіраваўся туды ж з работай "Высяленне з зоны". Вынік — той жа. І не было б крыўдна, калі б залу выставы перапаўнялі работы на гэтую ж трагічную тэму. Ажно не: вакол — усё пейзажы, нацюрморты, авангард...

Яшчэ адзін прыклад. Выстава, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Гомеля ад фашыстаў. Мая работа "Расстрэл партызана" таксама не спатрэбілася. Але ж на выставе гэтай амаль зусім адсутнічалі работы на тэму вайны, за выключэннем хіба што карціны гамяльчаніна Мікалая Палянкова "Бярозавы сок" ды пары партрэтаў ветэранаў.

Калі чэсна, я нават не ведаю, навошта і да каго звяртаю гэтую споведзь у свае 68 гадоў. Чаго хачу дамагчыся, выказваючы просьбу апублікаваць яе. Можа, проста таму, што мне па-ранейшаму незразумела: дакуль у нас у мастацтве будзе правіць баль кан'юнктура? Як казаў адзін з герояў вядомага фільма: "Не за сябе, за дзяржаву крыўдна!.."

**А. БУРАНКОЎ,**
**мастак**

*г. Добруш*

**Ад рэдакцыі.**

Мы надрукавалі гэты ліст не дзеля таго, каб падтрымаць сп. Буранкова, які мае статус мастака самадзейнага, у ягонай спрэчцы з Гомельскай філіяй Беларускага саюза мастакоў. Тое, што сп. Буранкоў пражыў жыццё не так, як яму хацелася, — гэта яго асабістая праблема, і наўрад ці хтосьці ў гэтай сітуацыі можа дапамагчы яму. Зразумела, крыўдна, калі зробленая табою рэч адпавядае, як табе здаецца, крытэрыям высокага мастацтва — а на выставу не бяруць... Але колькі людзей, столькі і думак...

Сёння ў беларускім выяўленчым мастацтве на слыху з дзесятак імёнаў, між тым як штогод дыпломы мастакоў у нашай краіне атрымліваюць не меней сотні выхаванцаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Куды знікаюць астатнія? Іх імёны вядомы толькі даволі шчыльнаму колу калег ды яшчэ, можа, паасобным аматарам мастацтва. У гэтым сэнсе многія дыпламаваныя прафесійнікі не надта адрозніваюцца ад мастака-самадзейніка Буранкова.

Я асабіста не ведаю мастакоў, якія былі б цалкам задаволены сваім матэрыяльным становішчам і сацыяльным статусам. Кожны хацеў бы большага, але мае тое, што мае.

У нас яшчэ няма сапраўднага мастацкага рынку. Хіба што ягоныя элементы. Аднак ужо сёння не мае вялікага значэння наяўнасць альбо адсутнасць у мастака дыплома. Мастакі сёння падзяляюцца не на "прафесійнікаў" і "самадзейнікаў", а на "раскручаных" і невядомых. Прыгадаем хоць бы Аляксандра Ісачова, у чымсьці ўжо мастака легендарнага. У яго не было паўнавартаснай мастацкай адукацыі, але ягоныя выставы мелі скандальны поспех. Бо на ягонае імя паспяхова працавала даволі прафесійная каманда, і ягонае мастацтва адпавядала эстэтычным патрэбам і светапогляду тагачаснага (сярэдзіна 80-х) гледача. Але ж і заплаціў Ісачоў за сваю славу дорага — заўчаснай смерцю.

Драматычная, а яшчэ лепей трагічная біяграфія вельмі спрыяе папулярнасці мастака. Што зробіш, рынак... І так было заўжды.

Хтосьці першым сказаў, што мастацтва патрабуе ахвяр. І меў рацыю. Цяпер гэта думка зашмальцаваная ў шматлікіх паўторах. А яшчэ кажуць, што "пераможца нічога не атрымлівае". І гэта так — сама праўда. Колькі творцаў, якіх гадоў дваццаць таму ўся вялікая краіна ведала ў твар, сёння жывуць на жабрацкую пенсію? Але ці можна сказаць, што іх жыццё не мела сэнсу? Не, бо сама творчасць і ёсць узнагарода за пакуты і апраўданне ахвяр.

Сп. Буранкоў піша, што "попыт сапраўдных знаўцаў мастацтва на карціны павінен рабіць мастака". Думка выказана неяк цьмяна. Ці то ён хоча сказаць, што мастак павінен вызначаць попыт на мастацтва (як гэта калісь рабіў дырэктыўным шляхам ідэалагічны аддзел ЦК КПСС), ці то задавальняць попыт, які да нейкай ступені сам сабою стыхійна ўзнік у грамадстве (падпарадкоўвацца рынкавым законам)?

У жыцці ж атрымліваецца, што высокі талент падпарадкоўвае сабе грамадскую думку, стварае стыль, моду, напрамак "стварае попыт", а талент меншага маштабу абслугоўвае грамадскую думку, працуе ў межах створанага іншымі стылю, падпарадкоўваецца модзе, "задавальняе попыт". І кожны мастак выбірае, быць яму сярод першых альбо сярод другіх. А зрабіўшы свой выбар, не трэба крыўдаваць на грамадства і калег, якім больш пашчасціла. Гледзячы на тое, колькі таленавітых людзей не знайшлі сябе, свайго месца ў жыцці, і сапраўды іншы раз становіцца "крыўдна за дзяржаву". Але што такое дзяржава, як не мы ўсе і кожны з нас паасобку?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**рэдактар аддзела выяўленчага мастацтва**

## Наш сябар — Алесь Жалдак

Сярод украінскіх пабрацімаў Беларусі — і паэт, крытык, перакладчык беларускай літаратуры Алесь Жалдак. Ён нарадзіўся 80 гадоў назад у мястэчку Вярблюжка Наўгародскага раёна Кіравагродскай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1960—1970 гадах працаваў журналістам і ў выдавецтвах Украіны. Выдаў шэраг лірычных, гумарыстычных і сатырычных кніг, сярод якіх "Арляняты", "Пераясла", "Выбрыкі Пегаса". А. Жалдак з'яўляецца укладальнікам і перакладчыкам кнігі "Беларускія прыказкі і прымаўкі", што выйшла на Украіне ў 1970 годзе. Акрамя таго, пераўвасобіў па-ўкраінску асобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, П. Броўкі, М. Танка, В. Быкава, Р. Барадуліна, К. Кірэнкі, К. Камейшы, І. Новікава, С. Шушкевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. У сваю чаргу яго творы перакладалі Э. Валасевіч, К. Камейша, М. Чарняўскі...

## Ізі Харыку — паэту і грамадзяніну

Яўрэй па нацыянальнасці, ён стаў адным з самых таленавітых песняроў беларускай зямлі — той зямлі, якая яго нарадзіла, на якой ён рос, сталеў як чалавек, як мастак, як грамадзянін. Напоўненая рэвалюцыйнай рамантыкай, яго паэзія, аднак, не была пазбаўлена зямных каранёў. Сын свайго часу, ён жыў у гэтым часе, і, як кожны сапраўдны талент, выйшаў за межы гэтага часу. Таму Ізі Харык адначасова і наш сучаснік, бо тое лепшае, што напісана ім, не страціла сваіх мастацкіх вартасцяў.

Пра гэта гаварылася на вечарыне, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння І. Харыка, арганізаванай Саюзам пісьменнікаў і Беларускім аб'яднаннем яўрэйскіх арганізацый і абшчын, што праходзіла 17 сакавіка ў Доме літаратара. Вялі гэтую вечарыну В. Зуёнак і Л. Левін.

На вечары выступілі А. Клышка, У. Гніламёдаў, М. Аўрамчык, С. Грахоўскі, Р. Рэлес, А. Вольскі... Тыя, хто ведаў І. Харыка, падзяліліся ўспамінамі пра яго. Гучалі творы паэта ў перакладзе на беларускую мову, адзначалася, наколькі творчасць І. Харыка аказала ўплыў на развіццё беларускай літаратуры і наколькі важкі ўклад ён унёс у развіццё яўрэйскай літаратуры. Згадвалася, што І. Харык быў не толькі творцам, а і актыўным удзельнікам перамен, што адбываліся ў жыцці грамадства. І падзяліў лёс многіх з тых, каго таталітарная машына знішчыла.

Да прысутных са словамі ўдзячнасці звярнулася ўдава І. Харыка Дзіна Звулайна.

Да юбілею паэта выйшла кніга выбраных твораў І. Харыка, ініцыятарам выдання якой і фундатарам выступіў Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей.

На вечарыне прысутнічалі прадстаўнікі пасольства Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. Пашкевіч, міністр адукацыі В. Стражаў, намеснік міністра культуры В. Гедройц.

Н. К.

## Рэдактар, выдавец, пісьменнік

75-годдзе адзначыў заснавальнік беластоцкага тыднёвіка "Ніва" і яго нязменны рэдактар на працягу 33 гадоў Георгій Ваўкавыцкі (выступае таксама пад псеўданімам Юрка Зубрыцкі). Гэта чалавек няпростага лёсу. У гады мінулай вайны быў вязнем фашысцкага канцлагера, ваяваў на фронце, скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. Дзякуючы ўлюбёнасці Г. Ваўкавыцкага, у беларускасць, "Ніва" паступова ператварылася ў выданне, якое шырока асвятляе жыццё беларусаў у Польшчы.

Адначасова Г. Ваўкавыцкі быў заснавальнікам Літаратурнага аб'яднання "Белавежа", рэдагаваў творы літаратараў, якія ўваходзілі ў гэтую суполку, выдаваў "Беларускія календары", займаўся іншай культурна-асветніцкай дзейнасцю. Напісаў некалькі кніг паэзіі, гумару, эсэ, успамінаў. Сярод іх вылучаецца "Віры", што выйшла ў Беластоку ў 1991 годзе і мае падзагаловак "Нататкі рэдактара". У ёй Г. Ваўкавыцкі расказвае пра шмат якія падзеі культурна-грамадскага жыцця на Беласточчыне, дзеліцца сваімі ўражаннямі падчас працы ў якасці галоўнага рэдактара "Нівы", расказвае пра выданне беларускіх кніг.

ВІНШУЕМ!

# Віктару ШЫМУКУ — 65

**Учора паэту і былому лімаўцу Віктару Шымуку споўнілася 65 гадоў. "ЛіМ" віншуе шаноўнага Вікенція Мікалаевіча (такое яго сапраўднае імя) з юбілеем і зычыць яму здароўя, доўгіх гадоў жыцця і новых творчых поспехаў. З гэтае нагоды тыднёвік прапануе ўвазе чытачоў два санеты юбіляра.**



Віктар ШЫМУК

### Радзіма

*Гаворым, што любіць радзіму трэба,*
*Гаворым, без радзімы — ні на крок.*
*Чаму ж яна, як сірата, пад небам,*
*Чаму над ёй то прыцемкі, то змрок?*

*Усе выступаюць ад імя народа,*
*Усе абяцаюць — лепей будзем жыць.*
*І так ідуць, мінаюць год за годам,*
*Усё патанула ў здрадзе і ілжы.*

*Як і калісь, стаім на раздарожжы*
*І колькі часу будзем так стаяць*
*У гэтым раздарожжы і тумане?*

*І выйсця нам з галечы не відаць,*
*Пакуль гаспадарамі мы не станем,*
*Сябе пакуль не станем паважаць...*

### Вясна

*Я першы дзень вясны сустрэў у лесе,*
*Далей ад тлуму, ад усіх нягод.*
*Шчэ й не вясна, а так сабе —*
*прадвесне,*
*Ды абуджаецца "лясны народ".*

*Я чую, як дзяўбе на ўзлеску дзяцел,*
*Як дзюбу чысціць па сухой кары.*
*Мо з Дзятлава ён прыляцеў, прыяцель,*
*Са мною, земляком, пагаварыць?*

*А там —*
*мурашкі ладзяць домік лоўка,*
*А там —*
*на сонцы першы матылёк.*
*І па руцэ, глянь, "божая кароўка"...*

*Да нас праз рэкі, паплавы здалёк*
*Каторы год вясна*
*прыходзіць зноўку,*
*Як мілая, жаданая сяброўка.*

АДГАЛОСКІ

# Промах

Фільм А. Няўзорава "Чысцілішча", які быў паказаны па ГРТ у панядзелак 23 сакавіка, мог быць прыгаданым у нашым "Коле дзён" у намінацыі "ўжасцік тыдня". Адразу адзначу, што фільм бяздарны да непрыстойнасці. Гэта нагрувашчванне жахаў:, штучны пафас і прымітыўны падзел персанажаў на "нашых" і "ворагаў". Прычым "нашыя" — гэта носьбіты высакародства (адзіная загана — карыстанне ненарматыўнай лексікай, што, аднак, на вайне нельга лічыць вялікім грэхам). "Ворагі" — суцэльныя антыподы "нашых": адразаюць палонным галовы і геніталіі, за кожнага забітага "федэрала" тут жа патрабуюць у свайго начальства ганарар у "баксах" і ўвогуле дэманструюць разбэшчанасць і амаральнасць ва ўсіх магчымых праявах.

Я не вазьму на сябе смеласць кагосьці на той вайне вінаваціць альбо апраўдваць. Дзякуй Богу ўжо за тое, што расійска-чачэнская разня не закранула нас, беларусаў. Тое, што расіец бачыў з акопа альбо праз байніцу "бэтээра", кожную хвіліну рызыкуючы ператварыцца ў "груз 200", я бачу выключна на тэлеэкране альбо на газетнай паласе. Адсюль і рознае стаўленне да падзей. Але, дзякуючы адзінай інфармацыйнай прасторы, няўзораўскае кіно бачылі і мы. А значыць, і мы аказаліся ўцягнутымі ў перманентны расійска-чачэнскі (ці правільней, маскоўска-чачэнскі) канфлікт, і мелі права і патрэбу выказацца на гэты конт.

Сюжэтная аснова фільма — "псіхалагічны" двубой расійскага палкоўніка і чачэнскага палявога камандзіра. Па сюжэце гэты чачэнец — былы галоўны ўрач гарадской бальніцы. Вось, мабыць, які падонак: прадстаўнік самай гуманнай прафесіі (мабыць жа, "Клятву Гіпакрата" даваў...), а цяпер забівае людзей. На маю думку, такі вобраз цалкам надуманы. Сярод маіх знаёмых нямала ўрачоў. Гэта вельмі своеасаблівая каста. Урачам уласціва пачуццё элітарнасці, далучанасці да таямніцы ведаў, куды Бог не кожнага пускае; разуменне таго, што калі "турму ды суму" яшчэ можна ў жыцці абмінуць, дык у бальніцу хоць калі-небудзь да патрапіш. З гэтай прычыны "чалавек са скальпелем" ніколі добраахвотна не стане "чалавекам з ружжом". Бо гэта — справа маральнага падзення і прызнанне сваёй нязданасці. А чачэнцы, між іншым, людзі не тое што ганарлівыя, — фанабэрыстыя! Так што памыліўся сп. Няўзораў, малюючы вобраз ворага.

Можна назваць і іншыя глупствы гэтага фільма, але мая мэта — іншая. Хацелася б зразумець, навошта гэтая лухта ўвогуле трапіла на тэлеэкран? Расія вайну прайграла. Зноў вяртацца да тых трагічных падзей — гэта зноў вярэдзіць незагоеныя раны. Тым болей, што ніякай "канструктыўнай" высновы фільм не дае. Цітры напрыканцы кіно паведамляюць, што ўсе ахвяры расійскага войска былі бессэнсоўнымі, бо праз нейкі час "федэралы" былі вымушаны зноў здаць заваяваны плацдарм чачэнцам.

Тлумачэнне з'яўленню фільма можа быць, бадай, толькі адно. Рэспубліка Ічкерыя ідзе да фактычнай юрыдычнай незалежнасці ад РФ. Пэўны плён мелі сакрэтныя важкі чачэнскага прэзідэнта. Вось і ўзнікла ў Масквы жаданне папярэдзіць Захад ад паглыблення і пашырэння кантактаў з мяцежным "суб'ектам федэрацыі". Вось, мабыць, з якімі дзікунамі вы хаўрус ладзіце! Але наўрад ці няўзораўскі стрэл трапіць у "дзесятку". Надта ж бяздарна зроблена справа. Промах.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

КУЛЬТУРА

# Храм "Анёла"

"Вялікі, Моцны і Магутны Пан Анёлаў. Моцнае пляцо Яго ўдары дзеліць паводле сваёй меры, а потым падымае чалавека, каб ён іх пераносіў і не ўпаў, а вытрымаў аж да канца, каб перамагла справядлівасць".

Так на пачатку стагоддзя выказаў свае думкі Эдвард Вайніловіч, духоўны прыклад якога атрымаў разуменне і развіццё і ў наш час.

З вялікім жаданнем пабудаваць і адрадзіць Духоўны Храм нашага маладога пакалення быў створаны Духоўны тэатр "Анёл" Беларускага універсітэта культуры пры Чырвоным касцёле свсв. Сымона і Алены. Днём заснавання тэатра стаў Дзень Спаслання Духа Святога, 26 мая 1996 г., калі калектыў атрымаў благаслаўленне ксяндза-магістра Уладыслава Завальнюка. Дзякуючы яго намаганням адбылося стварэнне Духоўнага тэатра "Анёл", пры яго актыўным удзеле рыхтуюцца духоўныя святы, прадстаўленні, містэрыі. Як творчая асоба ксёндз Уладыслаў падтрымлівае моладзь святарскім словам, вельмі чула ставіцца да творчасці "Анёла".

З разуменнем аднесліся да дзейнасці Духоўнага тэатра і ва універсітэце культуры. Падтрымалі і стварылі ўмовы для яго далейшага развіцця рэктар універсітэта Ядвіга Грыгаровіч, дэкан факультэта культуралогіі Аляксандр Жураў, загадчык кафедры рэжысуры свят Пётр Гуд.

На рахунку тэатра, мастацім кіраўніком якога з'яўляецца выкладчык кафедры рэжысуры свят Наталля Міцкевіч, а ўдзельнікамі — студэнты, ужо шэраг падрыхтаваных праграм: "Чысціні маёй белая кветка", "Свет нябесны, азары мяне Любоўю...", "Успаміны" і інш. А пачыналася ўсё з духоўных свят у дні Нараджэння Хрыстовага для дзетак-сірот і інвалідаў: "Белыя крылы пяшчоты", "Дзіва Віфлеемскай зоркі", "Дабравесце пра нараджэнне Ісуса".

Духоўны тэатр "Анёл" спрабуе адкрыць новы накірунак у святочнай культуры, сэнс якога заключаецца ў адраджэнні храмавых свят: праз святочныя ўрачыстасці, прадстаўленні, спектаклі, містэрыі па-свойму асцярожна і трапятліва раскрыць свет духоўнасці.

Калектыў тэатра пашыраецца, у часе стварэння містэрыі да ўдзелу прыцягваюцца лепшыя творчыя сілы сталіцы. Менавіта ў такім складзе паўстала новая праграма "Храм" — містэрыя, духоўная споведзь, прысвечаная памяці заснавальніка касцёла Эдварда Вайніловіча, яго жонкі Алімпіі і іх дзяцей Сымона і Алены, якая была прадстаўлена 27—29 сакавіка ў Дольнай зале Чырвонага касцёла.

**Л. ДОЎНАР**

# Куды ідзём мы... з Пятачком...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Самы арыгінальны і цікавы погляд, якому, праўда, не даюць шырокага выйсця на СМІ — стварэнне Вялікай Беларусі, а дакладней стварэнне Саюза Славянскіх Краін пад эгідаю Мінска, як наваяўленага і "існага "цэнтра ўсходславянскіх народаў, уліваючы захоп "Трэцяга Рыма" сіламі **некарэннай** нацыянальнасці. Гэты, на першы погляд, апераэтачны і наіўны варыянт развязкі сённяшняга палітычнага гордзіевага вузла хоцы і невядомы шырокім масам, але мае даволі глыбокія карані. Пры ўсёй сваёй экстравагантнасці ён утрымлівае ў сабе вялікую небяспеку для той жа Масквы. Калі, вядома, будзе рэалізаваны. Прапагандаваны ён, відаць, у колах усё той жа наменклатуры нацыянал-камуністычнага гарту, якая для дасягнення сваіх планаў робіць стаўку на Аляксандра Лукашэнку, як будучага аб'ядніальніка зямлі рускай, але не ў "першапрастольнай", а ў нашым любым Мінску. Пакінем гэты погляд, які, паўторым, не такі наіўны, як здаецца з першага погляду, без каментарыя.

V

Усе мяркуемыя шляхі нашай краіны лучыць, як мы ўжо адзначалі напачатку, адзін момант. Над палітычнай беларускай нівай працягвае ўзвышацца той самы Пятачок — чырвоная пяціканцовая зорка, уплыў якой на нашу свядомасць і нават падсвядомасць пакуль што найвялікшы. Калі што і патрабуе неадкладнай люстрацыі, то гэта наша "савецкасць", якая магутнейшым чынам вызначае пакуль што і перспектывы палітыкаў — ад крайне правых да крайне левых, і перспектывы нашага выжывання як нацыі.

"Савецкасць", маленне на Пятачок — гэта не проста часовыя хібы, а грэх, які вісіць над намі ўжо вельмі працяглы час. Мы не можам і не ўмеем пакаяцца, ачысціцца ад яго, бо проста страцілі ў выніку сацыялістычнай "эвалюцыі" элементарны да гэтага навык. Адсюль і ўсе праблемы ў эканоміцы, у дзяржаўным будаўніцтве, якіх чамусьці не мае ніхто з суседзяў. Толькі вяртанне да сімвалаў спаконвечных, арганічных нашай ментальнасці дапаможа нам. І не дэкляраванне яго, як гэта ўжо мела месца на пачатку 90-х, што прынесла вялізную шкоду беларушчыне, а рэальнае вяртанне.

Але гэта -- доўгі і цяжкі шлях. Пакуль жа мы працягваем ісці па курсе, які асвятляе нам чырвоны Пятачок — рэальны сімвал інфернальных сіл...

СПАДЧЫНА

***Ёсць рэчы, якія, здавалася б, навідавоку, але пра якія мы ведаем толькі збольшага. Скажуць, напрыклад, "этнаграфія" — і нам уяўляюцца кросны або збанкі... Адчувальней за ўсё прабелы, якія паходзяць са школы, таму і зліквідоўваць іх лепш за ўсё кнігамі папулярнымі, адрасаванымі шырокаму чытацкаму колу. Такую магчымасць дае Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі, выпусціўшы "Этнаграфічную спадчыну" ў дзвюх частках ("Беларусь", 1996, 1997). З аўтарам дапаможніка, доктарам гістарычных навук, прафесарам Віктарам Сцяфанавічам ЦІТОВЫМ мы гутарылі на кафедры этналогіі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры.***

# Сакральны дар — традыцыі

**— Выданне дапаможніка па этнаграфіі для навучэнцаў і настаўнікаў — з'ява, безумоўна, не шараговая ў нашых варунках. Што ў нас было дасюль з кніг такога тыпу і адкуль зыходзіла ініцыятыва выдання?**

— Тое-сёе ў нас не толькі выдавалася, але і перавыдавалася... І чаму б тут не згадаць хай і невялічкую, але зразумелую школьніку і вельмі карысную ў навучанні працу Вацлава Ластоўскага "Што трэба ведаць кожнаму беларусу"? Або кнігу Аркадзя Смоліча "Геаграфія Беларусі" (4-е выд., 1993 г.), дзе асобныя раздзелы прысвячаюцца этнаграфіі і традыцыйнай гаспадарцы беларусаў.

У 80-я гады выйшлі з друку вучэбна-метадычныя дапаможнікі, ілюстраваныя "Помнікі этнаграфіі", "Этнография Белоруссии" М. Піліпенкі, цікавыя кніжкі па асобных раздзелах беларускай этнаграфіі і народным мастацтве М. Раманюка, Я. Сахуты, С. Цярохіна. Нашы руплівыя навукоўцы і збіральнікі як бы адкрылі ўсяму адукаванаму свету незнаёмыя старонкі беларускай народнай творчасці, увялі ў навуковы ўжытак новыя матэрыялы, узоры народнага мастацтва, выяўленыя падчас экспедыцый. Нарэшце, сапраўднай падзеяй канца 80-х гадоў стала этнаграфічная энцыклапедыя — першая ў СССР сярод падобных выданняў.

**— Вы маеце на ўвазе важкую таміну, дзе на вокладцы Галіна Сачанка (Багданава) у народным строі?**

— Так. Калі я прывёз яе ў Маскву ў падарунак сваім расійскім калегам, тыя дзівіліся: "Як?.. У беларусаў такая кніга?!" Дарэчы, уяўленне аб беларускай народнай культуры ў расійскіх вучоных было крыху спрошчаным, таму іх і здзівіла фактычная аснова выдання — багатыя і каларытныя строі з розных куткоў Беларусі, узоры народнага дойлідства, мастацкая кераміка, транспартныя экіпажы, рукатворныя вырабы народных майстроў — і ўсё гэта ў змястоўных лаканічных артыкулах і фотадакументах!

У 1994 годзе ў "Навуцы і тэхніцы" выйшла мая манаграфічная праца "Народная спадчына. Гістарычныя шляхі і этнакультурныя стасункі", абароненая ў свой час у Інстытуце этналогіі і антрапалогіі АН СССР. Так што базавы матэрыял для вучэбнага дапаможніка ў мяне быў гатовы. Неабходнасць выдання такога дапаможніка я адчуў адразу, калі вярнуўся на выкладчыцкую працу — у Беларускі універсітэт культуры. І калі паступіў заказ і прапанова ад Міністэрства адукацыі і навукі — пазваніла загадчыца аддзела НМЦ Соф'я Іванаўна Русак, — я не мог адмовіцца.

Важна было, захаваўшы навуковую аргументаванасць, прыстасаваць сабраны матэрыял для ўспрымання як студэнтамі (у першую чаргу музеязнаўцамі, якіх рыхтуе кафедра), так і навучэнцамі сярэдніх навучальных устаноў, школьнікамі, зрабіць кнігу навукова-папулярнай. Як мне гэта ўдалося — меркаваць чытачам.

**— Падзел на дзве кнігі — гэта для зручнасці ў карыстанні?**

— Не толькі. Істотнымі былі і фінансавыя меркаванні: НМЦ меў праблемы з дзяржаўнай датацыяй. Ды і сам змест лёгка і лагічна дзяліўся на дзве часткі. Першая — "Беларусь. Краіна і людзі" — знаёміць з асноўнымі паняццямі ў этнаграфіі (або этналогіі, як зараз часцей яе называюць), складанай, ды яшчэ штучна заблытанай праблемай этнагенезу беларусаў, асаблівасцямі этнічных працэсаў у Беларусі, з этнічнай тэрыторыяй, беларусамі замежжа і г.д. Гэта па сутнасці гістарычная этналогія. Другая — "Беларусь. Традыцыйна-бытавая культура" — разглядае асноўныя раздзелы народнай культуры: жыллё, адзенне, нацыянальную кухню, сельскую гаспадарку, промыслы і рамёствы, транспартныя сродкі. Народная культура паўстае перад намі ў багатай разнастайнасці і квецені мясцовых фарбаў і зусім не як "пережиток проклятого прошлого", а як жывое дрэва, вечна пульсуючая крыніца народнага духу, жыццёвай энергіі, якія дапамаглі нам выжыць у экстрэмальных умовах, адрадзіць на папялішчах разбураную гаспадарку і захаваць сябе як этнас.

Кнігі добра ілюстраваны. Прычым ілюстрацыі адыгрываюць не проста ролю нагляднасці, гэта — фотадакументы, большасць з якіх зроблена мною падчас шматгадовых экспедыцый у розныя рэгіёны Беларусі.



**— Віктар Сцяфанавіч, што вы лічылі важным данесці да свядомасці сучасных навучэнцаў?**

— Праўду і толькі праўду (прысягаю як на Бібліі). Калі мы гаворым пра нацыянальную Акадэмію навук, нацыянальную школу, нацыянальныя інтарэсы — гэтыя паняцці павінны напаўняцца рэальным сэнсам. Этнагенез, гісторыя, шматвяковая культура беларусаў павінна вывучацца, безумоўна, перш за ўсё самімі беларусамі, а не кімсьці збоку. Менавіта палітызацыя ў навуцы, строгае патрабаванне партыйнасці спараджала мноства міфаў і надуманых канцэпцый, а некаторыя тэмы лічыліся наогул закрытымі. Ну, скажам, тыя ж праблемы этнагенезу беларусаў (падрыхтаваная калісьці міжнародная канферэнцыя ў АН БССР была забаронена, а некаторым арганізатарам каштавала пасад) ці пытанне этнічнай тэрыторыі — Радзімы, Бацькаўшчыны. Этнічная тэрыторыя — гэта не толькі геапалітычнае становішча, але і пэўнае экалагічнае асяроддзе, дагледжаная рукамі тубыльца зямля, культурны ландшафт. Менавіта дэталёвае параўнаўчае вывучэнне культурных ландшафтаў дае магчымасць асвоіць глыбінныя пласты народнай культуры, выявіць яе каларытнае багацце і мясцовыя фарбы. Кожны край-рэгіён і нават кожны куточак Беларусі вылучаўся калісьці сваім этнакультурным абліччам, меў свой непаўторны каларыт, што выяўлялася ў народным побыце, нормах паўсядзённага жыцця, арганізацыі жылля, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, звычаях, абрадах, паданнях, мясцовых гаворках і г.д. Бывала і так, што суседняя вёска за 5—7 вёрст лічылася ўжо "чужой старанай", і дзяўчаты неахвотна ішлі туды замуж. Параўнаўчы комплексны аналіз і картаграфаванне разнастайных этнакультурных прыкмет далі падставу для вылучэння на тэрыторыі Беларусі ў XVIII—пач. XX ст. шасці гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў: Падзвіння (ці Паазер'я), Падняпроўя, Цэнтральнай Беларусі, Панямоння, Усходняга Палесся, Заходняга Палесся. Гэтыя рэгіёны былі абгрунтаваны мною спачатку ў рамках планавай тэмы ў сувязі з адкрыццём музея народнай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам, што месціцца зараз у раёне Воўчкавіцкага вадасховішча. Унутры кожнага з гэтых рэгіёнаў, у сваю чаргу,назіраліся мясцовыя (лакальныя) асаблівасці ў матэрыяльнай і духоўнай культуры.

**— Падзел культуры на матэрыяльную і духоўную, мабыць жа, мае свае слабыя бакі...**

— Так, ён дастаткова ўмоўны, мы як бы прэпаруем адзінае цэлае ў мэтах даследавання. У рэальным жыцці такога падзелу не было. Што б ні ствараў чалавек — храмы, жыллё, прылады працы, бытавыя рэчы, адзенне, прадметы мастацтва — гэта быў працоўны і творчы працэс, асвечаны духоўна. Розныя рэчы — ад помнікаў архітэктуры да бытавых дробязяў — этнографа цікавяць не самі па сабе, а як увасабленне пэўных традыцый, што даюць нам каштоўную, а часам унікальную інфармацыю пра нашу мінуўшчыну, пра тое, як жыў чалавек, чым жыў, пра яго духоўныя інтарэсы, эстэтычныя густы, маральныя каштоўнасці, рэлігійныя ўяўленні, абрады, звычаі і да т.п. Таму ў сваіх кніжках, разглядаючы тэму народнага жылля, я асаблівую ўвагу прысвячаю будаўнічым традыцыям, звычаям і абрадам, вывучаючы земляробства — народнаму календару, аграрным звычаям, святам і абрадам, пры разглядзе адзення — не толькі яго канструкцыі і тыпалогіі, але і эстэтычным і абрадавым функцыям, спосабу ўпрыгожвання, дэкору і г.д.

**— Раздзел першай часткі, прысвечаны сумежным тэрыторыям — Віленскаму краю, Беласточчыне, Смаленшчыне і іншым — можа не спадабацца некаторым палітыкам, а мо і вучоным. Вы не баіцеся, што вас, як у добрыя старыя часы, абвінавацяць у нацыяналізме?**

— Ну, тады няхай яны пачынаюць з вядомых расійскіх аўтараў, якія ў пачатку стагоддзя даследавалі сумежныя тэрыторыі і склалі карты. Амаль усе яны дружна, ад Рыціха і Эркерта да членаў Маскоўскай дыялекталагічнай камісіі, жыхароў Смаленшчыны і Браншчыны адносілі да беларусаў. Бо культура і зона рассялення беларусаў (якая, дарэчы, супадае на ўсходзе з межамі рассялення смаленскіх крывічоў і радзімічаў) захавалася да 19—20 стагоддзяў. Аўтар "Живописной России" (М., 1882), вядомы рускі этнограф і пісьменнік С. Максімаў піша так: "Ужо ў горадзе Бранску, на базары, каля ніжняга сабора, пераважае белая магерка — класічны белы капялюш без палёў, і тая кароценькая і вузенькая світа, якая адрознівае беларуса ад малароса. Тыя ж капелюшы, і толькі белыя, прадаюцца ў лаўках і ва ўсім гэтым Арлоўскім Палессі здаўна воўна белых авечак заўсёды каштуе даражэй за чорную. (...) Адсюль зразумела мянушка арлоўскіх палехаў — "белагаловыя", дадзеная ім жыхарамі заходняй палавіны губерні". Як бачым, у народнай свядомасці існавала ўжо раздзяленне — "мы — яны". Мы — ліцвіны, а яны — велікаросы, "хахлякі"... У мянушках, дарэчы, няма нічога крыўднага.

**— Вы лічыце, што студэнтам пра ўсё гэта трэба ведаць?**

— А навошта ад іх хаваць праўду? Няхай яны ведаюць каларыт мінулай эпохі, гістарычны фон, на якім адбываліся складаныя этнічныя працэсы і ўсё, што тычыцца нашага народа: і этнічныя тэрыторыі, і рассяленне татараў, яўрэяў, і нават меркаванне Івана Буніна, які некаторы час працаваў урачом сярод беларусаў Арлоўскай губерні (хоць дзённікавы запіс яго я і не прыводжу): мясцовы люд не спадабаўся яму "своими треухами, белыми зипунами, жалким белорусским говором". Ужо згаданы Максімаў наконт назвы "беларус" пісаў, што яна штучная, кніжная, афіцыйная... "Хаця па сутнасці нельга падабраць больш тыповага эпітэта: беларусы яны сапраўдныя, белы колер пераважае".

**— Вы прыводзіце і іншыя версіі паходжання слова "Беларусь", усе яны досыць спрэчныя. Як і пытанне старажытнарускай народнасці.**

*(Працяг на стар. 15)*

# Каб хлеб урадзіўся...

## З кнігі "ЭТНАГРАФІЧНАЯ СПАДЧЫНА" (1997)

У Панямонні частку насеннага збожжа асвячалі ў царкве; яго ссыпалі ў асобую торбу, завязвалі каляровым шнурком і пакідалі для засевак.

Пасля засявання некалькіх загонаў селяніна чакаў святочны стол, да якога запрашалі памочнікаў, сваякоў, суседзяў. Лічылася: чым больш шчодры і разнастайны пачастунак з нагоды засевак, тым багацейшы будзе ўраджай. У гэты дзень пазбягалі даваць адзін другому агню ці пазычаць што-небудзь па суседстве (паводле павер'я, разам з пазычанымі рэчамі да суседа магла перайсці і частка ўраджаю). У Паўночнай Беларусі сейбіт часам працаваў у полі з сякерай за поясам, "каб хлеб урадзіўся такім, што яго прыйшлося б ссякаць сякерай".

●

У гады недароду і ліхалеццяў у хлеб, апрача мякіны і лебяды, дабаўлялі лісце ліпы, маладой папараці, балотнага бабоўніку, верасу, капытніку, вадзяных гарлачыкаў, кветкі канюшыны, дзятліны, бярозавую кару і інш. Суровы гістарычны вопыт навучыў беларусаў звяртацца ў цяжкія часы да тых відаў флоры, якія ў сістэме народных ведаў лічыліся патэнцыяльна карыснымі, і ў экстрэмальных умовах уключаць іх у рацыён харчавання ("Не бяда, калі ў хлебе лебяда, бяда, калі хлеба няма").

●

Перш чым мясіць цеста (расчыняць хлеб), жанчына павінна была чыста памыцца і перахрысціцца, прызваўшы ў сведкі бога, каб хлеб удаўся і добра падышоў. Не раілася расчыняць хлеб у кепскім настроі, бо гэта, паводле павер'яў, уплывала на яго якасць ("цеста будзе вадзяное, і хлеб у печы расплываецца"). Пры пасадцы хлеба непажадана было каму-небудзь знаходзіцца на печы. Калі хлеб выпякаўся, не раілася ў гэты час гучна размаўляць, спрачацца, прымаць у доме выпадковых людзей ("хлеб можа патрэскацца"). З такой жа сакральнай далікатнасцю і пашанай адносіліся і да начыння, якім карысталіся для прыгатавання хлеба, асабліва дзяжы.

●

У папярэдне аблюбаванае месца для жылля на ноч ставілі пасудзіну з мёдам; калі да ранку сюды запаўзалі мурашкі, месца лічылася прыдатным для жылля. На Віцебшчыне быў вядомы і спосаб выражбы на камянях: селянін браў невялікія камяні з чатырох палёў (ці зямельных палос), клаў іх запазуху або нёс на галаве пад шапкай на аблюбаванае месца, дзе складваў па вуглах мяркуемай будоўлі; калі тры дні апасля камяні заставаліся ляжаць на ранейшым месцы, выбар лічыўся ўдалым.

У Панямонні ў якасці рытуальных прадметаў часцей за ўсё выкарыстоўвалі хлеб. Селянін, паклаўшы ніжні вянец, пакідаў на ноч па вуглах кавалачкі хлеба; калі хлеб да раніцы знікаў, месца лічылася ненадзейным і вянцы перамяшчалі на другое месца.

●

Са светачам быў звязаны абрад "Жаніцьба коміна (або светача)". У летнюю пару (звычайна ад Вялікадня і да верасня), калі светлавы дзень быў доўгім, у лучніках і светачах не было патрэбы. Іх урачыста запальвалі толькі дзесьці ў сярэдзіне верасня (на Сымона). З гэтай нагоды комін-дымаход бялілі, абвівалі хмелем і ручнікамі, пасыпалі збожжам ці семем, прыгаворвалі малітвы ("Надзялі госпадзі здароўечкам") і запальвалі сухую лучыну ці асмол. Калі агонь гарэў весела, жвава — гэта лічылася добрай прыкметай. У гэтую ноч моладзь гуляла ды весялілася да раніцы.

●

У сярэдневяковы перыяд язда на санях лічылася больш шаноўнай, чым язда на калёсах. Важныя службовыя асобы, асабліва прадстаўнікі духавенства, выязджалі на санях і летам. Гэты звычай быў добра вядомы не толькі ў Рэчы Паспалітай, але і ў Еўропе. Яго падчас пераймалі ад вышэйшага духавенства і магнатаў простая шляхта і заможныя людзі ніжэйшага саслоўя. Вядома паданне, у аснове якога ляжаў, відаць, рэальны факт, калі разбагацеўшы селянін урачыста прыехаў летам у царкву на санях, запрэжаных парай белых коней.

Сані адыгрывалі важную ролю ў вясельнай абраднасці і ў пахаванні, аб чым выразна паведамляюць нам старажытныя мініяцюры. На санях, незалежна ад сезона года, везлі нябожчыкаў на родавыя могілкі.

## Добрае, светла-самотнае...

**Апошнія гады былі плённымі ў жыцці і творчасці Рыгора Сакалоўскага. Паэт прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ім выдадзена чатыры вершаваныя кніжкі. Апошняя — "У лёсе і сэрцы". Аўтар прадмовы да зборніка — Васіль Зуёнак. Прадстаўляючы беларускаму чытачу паэзію Р. Сакалоўскага, ён, у прыватнасці, заўважае: "Яго вершы нельга катэгарычна аддзяліць ад журналісцкай работы. Часта яны нараджаліся ў камандзіроўках, нярэдка штуршком станавіўся канкрэтны факт. Аднак звязваць усю творчасць Рыгора Сакалоўскага з журналістыкай было б няправільна. Бо ён — паэт сур'ёзны і адносіцца да гэтага нялёгкага рамясла з трапяткой павагай і глыбокай пашанай". І далей: "Куды б ні закідваў лёс Рыгора Сакалоўскага: ці то старажытны Віцебск, ці то дыхаючы полымем Афганістан, ці то яснапалянская старонка — усюды ён заставаўся ўлюбёным сынам сваёй радзімай зямелькі, чалавекам творчага палёту. Увесь свой вопыт, талент, полымя душы аддаваў паэтычнаму слову. Аб гэтым яскрава гавораць яго кнігі: "Афганскі сшытак", "Радкі любві" і "Зарыва душы".**

**Так склалася ў лёсе Р. Сакалоўскага, што тры культуры, тры нацыянальныя абсягі яднае ў сабе яго муза. Нарадзіўся на Украіне, піша па-руску (доўгі час быў звязаны з Расіяй службай, працай вайсковага журналіста), жыве ў Беларусі. Можна толькі ўявіць, якое шматгалоссе выяўляецца ў выніку творчых пошукаў паэта. У кнізе "У лёсе і сэрцы" (адрэдагаваць якую, між іншым, паспеў Пятро Гарэцкі, украінскі паэт, які доўгі час жыў у Мінску) — пяць асобных раздзелаў. Ёсць і інтымная лірыка, і вершы публіцыстычнага характару. Асобная частка — "Афганскі вецер". Можна пагаджацца альбо не з аўтарскай інтэрпрэтацыяй гарачых афганскіх падзей. Р. Сакалоўскі — адзін з многіх тысяч, каму выпала нялёгкая доля ўласнымі вачыма ўбачыць усё, што дзеелася ў далёкай краіне. Ды што ўбачыць — ваяваць давялося. І відавочна, што і зараз вайна тая незразумелая прысутнічае і ў вершах, і ў душы, і ў сэрцы ваеннага паэта Р. Сакалоўскага.**

**І ўсё ж мацнейшым, як паэт, Р. Сакалоўскі выяўляе сябе ў раздзеле "Край тапаліны". Поруч стаяць вершы, прысвечаныя, калі казаць ранейшымі катэгорыямі, — малой радзіме. На справе ж — галоўнай радзіме як найвялікшай сіле энергетычнай крыніцы творчасці. Якія матывы гаспадараць у гэтай лірыцы Р. Сакалоўскага? Бацькоўская хата, знаёмыя з дзяцінства краявіды, маці, светлы вобраз радзімы — вось стрыжнёвыя тэмы раздзела "Край тапаліны". Якраз у гэтых, сабраных поруч, вершах — і большая вобразнасць, шырэйшыя і святлейшыя параўнанні, мяккія, лагодныя і разам з тым яркія паэтычныя фарбы.**

*Добрае,*
*Светла-самотнае,*
*Быццам вясна ў вясне.*
*Мора пачуццяў*
*Пяшчотнае,*
*Што суцяшае*
*Мяне,*
*Мужнае, шчырае,*
*Вернае...*

**(Пераклад К. Камейшы)**

**Паэту Р. Сакалоўскаму, які і сёння не кідае журналісцкай працы, армейскай службы (палкоўнік Р. Сакалоўскі — галоўны рэдактар газеты "Во славу Родины", што з'яўляецца друкаваным органам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь), нядаўна мінула паўвека. Узрост жыццёвай, творчай мудрасці. Узрост літаратурнага сталення. Будзем жа чакаць ад Рыгора Сакалоўскага новых вершаў, новых кніг.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Аўтар "Славянскіх казак"

**Чэшскі фалькларыст, лінгвіст, гісторык літаратуры Іржы Паліўка (нарадзіўся 6 сакавіка 1858 года, памёр 21 сакавіка 1933-га) у сваёй даследчыцкай працы не абыходзіў увагай і беларускую літаратуру, фальклор. Пісаў рэцэнзіі на зборнікі казак А. Сержпутоўскага, Е. Раманава, М. Федароўскага, У. Дабравольскага. У кнізе "Славянскія казкі" (Ч. І., 1932) гаворыцца пра гісторыю вывучэння і дадзены аналіз стылістычных асаблівасцей рускіх, беларускіх і ўкраінскіх казак. У пяцітомным каментарыі да казак Братоў Грым (зроблены разам з І. Больтэ) ёсць раздзел пра казкі славян, выкарыстаны ўсе зборнікі беларускіх казак да 1932 года.**

ПОГЛЯД

# Не пакідаць пасля сябе зло...

***Каб не забываліся мы, што прыналежым да чалавечага роду, існуюць на свеце тры рэчы: царква, магілкі і дзіцячы дом. Каб не згубіць рэшткі сумлення, месцы гэтыя трэба наведваць час ад часу. І яшчэ раз пераконвацца: у кожнага ў душы — Бог; усе мы смяротныя; жыць трэба так, каб не пакідаць пасля сябе зло.***



Пашкадаваў, што не ўзяў з сабой у дзіцячы дом сына. Убачыў бы той на ўласныя вочы і дабро і зло. Мабыць, калісьці і не паўтарыў бы жахлівых памылак старэйшых. Душы дзіцячыя, як чыстыя лісты паперы, што "напіша" на іх рука дарослага, тое і застанецца да скону дзён. А рукі, ох, якія розныя... У сваім кабінеце дырэктар трэцяга дзіцячага дома сталіцы Вера Іванаўна Доля прапаноўвае пазнаёміцца з асабовымі справамі сваіх гадаванцаў — хлопчыкаў і дзяўчынак ад трох да васьмі гадоў. Восемдзесят лёсаў, восемдзесят напаўзламаных жыццяў.

Бацькі п'янствуюць, нідзе не працуюць. Ад дзіцяці адмовіліся... Немаўлятка пакінута ў гарадской дзіцячай клінічнай бальніцы, пераведзена ў дом груднога дзіцяці, потым — у дзіцячы дом... Маці дзяўчынкі пазбаўлена бацькоўскіх правоў, бо дачка без нагляду, галадае... Маладая маці, зусім яшчэ маладая, у радзільным доме адмаўляецца ад сына, бо не мае сродкаў для выхавання і сумняваецца ў разумовых здольнасцях немаўляці...

Непрыхаваная хроніка бяды. Агульнай, бо гэта нашы дзеці, гэта будучыня нашай нацыі. І што было б з ёй, і так хранічна хворай па дэмаграфічных прагнозах, калі б не супрацьстаялі злу людзі са святымі душамі.

Вера Іванаўна з дзецьмі працуе вось ужо 36 гадоў. Адзін з першых спецыялістаў-дэфектолагаў у рэспубліцы. Пэўны час займалася гэтай справай у школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот у на Гомельшчыне. Шаснаццаць апошніх гадоў — у сталічным дзіцячым доме N 3, восем — з'яўляецца яго дырэктарам (адзінаццатым па ліку). Гісторыя гэтага дома вартая таго, каб яшчэ і яшчэ раз вяртацца да яе. У 43-м размяшчаўся ён па вуліцы Паўночна-Заходняй (зараз Козыраўская, непадалёк ад камвольнага камбіната). З 88-га пераехаў на вуліцу Рафіева ў мікрараёне Паўночны Захад. Колькі дзяцей выратавана, выгадавана, пастаўлена на ногі за больш чым паўвекавую гісторыю! Звесткі пра кожнага ў мясцовым музеі, дзе ў дакументах, газетных выразках, фотаздымках — красамоўныя доказы штодзённай самаадданай барацьбы за дзіцячыя душы.

— Дзеці ў нас з паслабленым інтэлектам, — тлумачыць Вера Іванаўна. — Ды яшчэ ў пераважнай большасці іншых фізічных захворванняў хапае. Самі ведаеце, з якіх сем'яў яны да нас трапляюць. Ад 25-ці дзетак бацькі адмовіліся, таты і мамы памерлі ў дзесяці, трох кінутымі знайшлі, у пяці бацькі бездапаможна хворыя, ну а ў больш чым у 30-ці маці пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Якое тут здароўе! Дзіця ў чатыры гады ўжо такога пабачыла, што іншаму састарэламу ў навіну...

Ідзём у групы. Праўда, ад слова гэтага тут адмовіліся. Кожная купка дзетак па 13 чалавек (больш нормы амаль удвая) называецца тут па-хатняму — "сям'я". І малеча не сумуе. Трыццаць педагогаў-выхавальнікаў (у тым ліку і псіхолаг, і музычны кіраўнік, і інструктар фізвыхавання) ды дваццаць іх памочніц — для дзетак "Мамы"...

Пасярэдзіне вялікага пакойчыка літаральна праз хвіліну пасля ўваходу нагадваю навагоднюю елку, "упрыгожаную" малюпаськамі-кнопкамі. "Дзядзя, як завуць?" — пішчыць хтосьці зверху. "Што ты нам раскажаш?" — цягне за крысо хтосьці знізу. "Пойдзем, пакажу свой ложак"... "А я сваю цацку", — цягнуць за рукі ў супрацьлеглыя бакі дзве дзяўчынкі. Невялікі я псіхолаг, але з першага моманту ўразіла вось што: вочы ў зусім яшчэ маленькіх дзетак як у пабітых сабачанят. Вочы такія бачыў, толькі ў сталых, знявечаных жыццём...

Паліна, Васіль і Васіліна Жураўлі з адной сям'і, ад адной маці. Ці ад аднаго вось толькі бацькі? Дзе зараз тая "маці"? Даўно ўжо глядзіць яна на свет праз чарку. Ды і не глядзіць ужо, напэўна, бо нецікава, а проста п'е, забыўшыся на святое, мацярынскае.

— Здаецца, каля дзесяці дзетак у гэтай "матулі", — кажа В. І. Доля. — І ўсе без прыгляду матчынага...

Паўсотні дзяржаўных матуль наглядаюць у дзіцячым доме за малечай. І якімі б святымі і пяшчотнымі ні былі ў іх душы, ці ж заменяць яны хлопчыкам і дзяўчынкам адну, тую, што нарадзіла. Але што зробіш, калі ў свеце гэтым не ўсё так, як нам хочацца.

— Забіралі Палінку ў сям'ю цудоўныя людзі, — працягвае Вера Іванаўна. — Дзяўчынку за дачку лічаць, на руках гатовыя насіць. А тая ў слёзы. Мауляў, не пайду да вас, маму сваю чакаць буду. А "мам" п'яных мы і на прыступкі не падпускаем...

Слухаю дырэктара, сачу за тым, як весела валтузіцца малеча і думаю пра тое, што ніякай навіны чытачу не адкрыю. Колькі пісалася ўжо ў друку пра тое, што цяперашні кодэкс аб шлюбе далёкі ад дасканаласці, што работнікі загсаў часцяком вымушаны даваць згоду на "саюз" і хранічным п'яніцам, і людзям з яўнымі псіхічнымі адхіленнямі, для якіх пазбавіцца ад немаўляці праз дзевяць месяцаў, што пляшку гарэлкі прыдбаць. Колькі воклічаў чуецца і з газетных палос, і з вуснаў спецыялістаў-сацыёлагаў: "Нацыя гіне!" А пэўныя маці, прабачце, асобы жаночага полу, працягваюць выдаваць "на гара" ледзьве не паточным метадам немаўлятак, якіх адразу саджаюць на плечы дзяржавы, не зважаючы, што тая і без таго стогне ад эканамічнага бяссілля. Саджаюць і не нясуць пры гэтым ніякой адказнасці. Ні маральнай, ні матэрыяльнай. Гуманізм наадварот... Чаму мы такія нелюдзі? Адкуль гэтая абыякавасць да сваёй будучыні, да лёсаў дзяцей, абрабаваных у самых лепшых сваіх спадзяваннях?

Хтосьці з мудрых сказаў, што звычайны чалавек — геній і вялікі гуманіст, усе астатнія — выключэнне з правілаў. Не будзем пакуль пра выключэнні. Пагаворым пра звычайных людзей, без якіх дзіцячы дом N 3 застаўся б проста домам, а не сапраўдным прытулкам дабрыні.

— Разумеем, — сцвярджае В. І. Доля, — што сапраўдную маці замяніць нельга. Але жаночую цеплыню і душу сваю мы проста абавязаны цалкам аддаць нашым гадаванцам. Яны павінны застацца людзьмі. Інакш няма сэнсу ў нашай справе. Нязгодныя з такім меркаваннем у калектыве доўга не затрымліваюцца...

Хто аспрэчыць словы дырэктара? Неабыякавасць да чужога гора тут не толькі прафесійная рыса. Частка жыцця, душы, сэрца. Некаторыя педагогі самі ў свой час былі выхаванцамі дзіцячых дамоў. Не пад прымусам сюды прыйшлі, не ў пошуках няпыльнай працы (што можа сёння быць цяжэй за абавязак суперажывання). Проста Вера Міхайлаўна Дуброўская, Галіна Сяргееўна Дробышава, Ганна Уладзіміраўна Фурнікава і многія іншыя выхавальніцы — людзі звычайныя, а значыць, сумленныя і міласэрныя.

...Дзіцячы дом N 3 перарэканструяваны на базе звычайнага дзіцячага сада. Усё зроблена тут, каб любы пакой быў пасямейнаму ўтульны. У залах і калідорах — дываны. На сценах — кераміка, карціны, кветкі. "Мы не багатыя, а эканомныя", — смяецца дырэктар. Але, дзякуй Богу, падтрымка дзяржавы бачна ва ўсім. Нядаўна мэр горада Ярмошын падараваў дзіцячаму дому аўтобус для экскурсій і дальніх вандровак. "Калі ўжо паедзем катацца, — бурчэў днямі маленькі Сашка, не зводзячы вачэй з новай "цацкі". "Ну, пацярпі, Сашка, дзядзя Коля ўжо тэхагляд прайшоў, дык хутка паедзем", — супакойвала яго В. І. Доля. З сакавіка пазамінулага года аднадумцы Веры Іванаўны з прадпрыемства "Аліварыя", універсамаў "Рыга", "Фрунзенскі", "Сляпянка" пачалі аплачваць дзіцячыя маёмасныя чэкі. У кожнага з "акцыянераў" штомесяц прыбывае на ашчадную кніжку дзесьці ў сярэднім па сто тысяч. Грошы не надта вялікія, але ж...

Ды і не толькі грашыма дапамагаюць міласэрныя людзі. Ёсць у дырэктара дзелавыя сувязі з Італіяй, Ірландыяй. Кожнае лета некалькі дзесяткаў дзяцей бавяць час за мяжой. І не толькі адпачываюць.

— Вось гэтаму малому, — Вера Іванаўна прыгладжвае пасмы валасоў на галаве хлапчука, які цягне мяне ў пакой з цацкамі, — толькі за мяжой і здолелі аперацыю зрабіць. Глянеце, ніякай заечай губы цяпер не заўважна. Нармальны тварык!

Хутка ва ўладаннях В. І. Долі пачнецца новае будаўніцтва. Дакументы падрыхтаваныя, грошы гарадскія ўлады паабяцалі. Так што, будзем спадзявацца, праз час дачакаюцца мясцовыя "маці" лазнева-аздараўленчага комплексу... А спонсары не толькі грошы на кніжкі кладуць, але і ласункамі дзетак да свят частуюць. Словам, у каго сэрца ёсць, на "падшэфных" не забываецца.

Вельмі часта ў дзіцячым доме сямейныя святы праводзяцца. Скажам, дні адкрытых дзвярэй. Збіраюцца тады ўсе "добрыя людзі". І выхаванцы былыя, і фундатары, і тыя бацькі, якія дзетак усынавілі альбо збіраюцца. За апошні час дзесяць малых знайшлі сабе сапраўдныя сем'і. Статыстыка не вельмі ўнушальная, аднак хто сказаў, што дабрыню трэба ў працэнтах вымяраць. Вось і маленькая Марта весяліцца, не прыхоўваючы шчасця: хутка забяруць яе нейкая сям'я.

— Чакаеш? — пытаюся і (во, дзівак) бачу непаразуменне ў дзявочых вачах.

— Вельмі-вельмі. Там жа і тата, і мама, і дзядуля!..

Якімі будуць гэтыя дзеці? Ці не зламаюцца пад уціскам зла, закладзенага ў генах; ці вытрымаюць жорсткае выпрабаванне сапраўдным жыццём? Праблема з праблем. І не вырашыць яе адназначна: 80 дзетак — 80 розных лёсаў. Аднак таму і не спыняецца барацьба за дзіцячыя душы. Палітыка ў супрацоўнікаў дома тут адзіная: запоўніць сённяшнія дні хлопчыкаў і дзяўчынак паўнацэнным жыццём, як мага больш карыснымі справамі: навучаннем, працай. Да апошняй асаблівыя патрабаванні.

— Гадаванцы нашы — ужо і гаспадары заўзятыя, — тлумачыць Вера Іванаўна. —

ДУША

# Прыслухайцеся да спеваў малітоўных

У Свята-Петра-Паўлаўскім саборы Мінска ўжо не першы год служыцца спецыяльны Малебен за беларускі народ, які спалучаецца з Акафістам святым мучанікам Віленскім Антонію, Іаану і Яўстафію. Гучаць яны на беларускай мове, спяваюць браты і сёстры з Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, што існуе пры саборы ўжо пяць гадоў.

А было ўсё так. Пасля таго, як Літва мяжою аддзялілася ад Беларусі, перад Праваслаўнай царквой паўстала пытанне: як зрабіць непарыўнай сувязь вернікаў з вялікай старажытнай святыняй нашай — святымі мошчамі Віленскіх мучанікаў, што аддалі жыццё за сведчанне веры Хрыстовай у Вялікім княстве Літоўскім у 1347 годзе, і мошчы якіх захоўваюцца зараз у Віленскім Свята-Духавым манастыры. Ушанаванне святых сярод беларусаў і іншых праваслаўных ВКЛ пачалося адразу пасля іх праведнай канчыны. Кіеўскі мітрапаліт Аляксей па благаславенні Канстанцінопальскага патрыярха Філафея пастанавіў святкаваць дзень Літоўскіх мучанікаў 14 (27) красавіка. Адбылося гэта не пазней за 1374 год, калі часцінкі іх мошчаў былі перанесены ў кафедральны сабор святой Сафіі ў Канстанцінопалі. У Візантыі, у паўднёва-славянскіх краінах пашыралася ўшанаванне святых. Гэта надзвычай рэдкі выпадак у гісторыі Царквы, калі так хутка пасля канчыны па прычыне нятленнасці, цудатварэнняў і глыбокага шанавання мучанікі былі далучаны да ліку святых. Агульнаруская кананізацыя іх адбылася на Маскоўскім саборы 1549 года, што мела вялікае царкоўнае і гістарычнае значэнне для ўмацавання духоўнай еднасці праваслаўных былой Старажытнай Русі, а таксама для самой Царквы ў той складаны час.

Паводле царкоўнага падання і гістарычнага сведчання, Царква Хрыстова ад часоў апостальскіх, з самага свайго пачатку ўмацоўвалася верай і крывёю мучанікаў за Хрыста. Прыняцце хрысціянства на Русі, у тым ліку ў Полацкім, Тураўскім і іншых нашых княствах, прайшло мірна і амаль без мучаніцтва, бо гэта было ў часы, калі вера хрысціянская на працягу сямі вякоў была ўжо афіцыйна прызнанай у Рыме, Візантыі і іншых краінах.

На нашых землях хрысціянства зацвердзілася пад афіцыйнай апекай вялікага князя Кіеўскага Уладзіміра, па благаславенні першага Мітрапаліта Кіеўскага, што быў з Візантыі. У 992 узнікла епіскапская кафедра ў Полацку, а праз некаторы час і ў Тураве.

У 14 стагоддзі ў ВКЛ было шмат праваслаўных, але ў атачэнні Вялікага князя Літоўскага было больш літоўцаў-язычнікаў. І сам ён вагаўся паміж паганскаю вераю сваіх продкаў і хрысціянствам падуладных славянаў, паміж часовымі палітычнымі мэтамі і ўціскам язычніцкіх жрацоў. У выніку такіх ваганняў ён усё ж аддаў на страшэнныя пакуты і павешанне сваіх лепшых, любімых дружыннікаў. Два браты Круглец, Няжыла і суродзіч іх Кумец, у хрышчэнні Антоній, Іаан і Яўстафій, мужна спавядалі веру ў Хрыста і прынялі за Яго смерць. Можна сказаць, што гістарычна кроў гэтых мучанікаў легла ў аснову нашай Беларускай Царквы. Як і пазней кроў Гаўрыіла Беластоцкага і Афанасія ігумена Берасцейскага. Наогул жа, Праваслаўнай Царкве часоў Кіеўскай Русі вядомы адпачатку імёны толькі двух мучанікаў за веру. Вялікай крывёю амылася Руская Праваслаўная Царква ў 20 стагоддзі. Першы спіс спаведнікаў веры Хрыстовай, што пацярпелі на Беларусі ў савецкія часы, склаў святар Фёдар Крыванос (гл.: Синодик за веру и церковь Христову пострадавших в Минской епархии (1918—1951, Киевец, 1996).

Імёны Віленскіх мучанікаў здаўна і глыбока шануюцца ў нас на Беларусі: па дапамогу да святых ездзілі паломнікі ў Віленскі манастыр, маліліся дома... І вялікай скрухай сталася ў наш час немагчымасць вольна наведацца ў Вільню. Вось тады і было арганізавана вернікамі Свята-Петра-Паўлаўскага прыхода Мінска Беларускае Праваслаўнае Брацтва ў гонар Трох Віленскіх Мучанікаў. Смаленскі іканапісец Сяргей Кульманаў па просьбе Брацтва напісаў ікону Віленскіх Мучанікаў, у якую былі ўкладзены часцінкі святых мошчаў і ўрачыста, з вялікім ушанаваннем перанесены з Вільні ў Мінск. Па дарозе, у прыходах ікону і паломнікаў сустракалі святары, народ, віталі, узносілі сумесныя малітвы. Такім шляхам ікона з цудадзейнымі мошчамі была прынесена ў Мінскі Сабор святых апосталаў Пятра і Паўла і ўстаноўлена ў яго левым пры-дзеле. Адбылося гэта 26 ліпеня 1993 г. Вось з таго часу і чытаецца ля гэтай іконы Акафіст, спачатку на царкоўнаславянскай мове, на якой маліліся нашы продкі, а зараз і на беларускай. Пераклад Акафіста на беларускую мову зрабіў вядомы перакладчык Анатоль Клышка (раней ён пераклаў Акафіст іконе Божае Маці "Усіх тужлівых радасць" — гл. часопіс "Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце", 1994, N 1).

Акафіст (ад грэч. несядальны) — гэта вельмі старажытныя песнапенні, слаўленні-малітвы да Ісуса Хрыста, Божае Маці, Святых. Узнік Акафіст у Візантыі, і першы вядомы нам твор гэтага жанру — Акафіст Багародзіцы, створаны ў 7 стагоддзі Раманам Салодкапеўцам. Гэта цудоўнае спалучэнне высокай паэзіі, шчырай веры і малітоўнасці; ён сапраўды боганатхнёны. Пераклад Акафіста Багародзіцы на царкоўнаславянскую мову, які гучыць у нашых храмах, гэта таксама плён высокай паэзіі і малітоўнасці. Зрабіць яго было нялёгка, бо грэчаскі арыгінал вельмі складаны па сваёй пабудове, як і наогул жанравая схема ў візантыйскай гімнаграфіі. Акафісты мелі азбучны акраверш з 24 літар грэчаскага алфавіта, 12 пар чаргавання кандакоў і ікасаў. У славянскіх перакладах акраверш не захаваўся. Пачынальнікам жанру Акафіста ва ўсходне-славянскай гімнаграфіі быў наш Скарына (Акафісты з "Малой падарожнай кніжкі"). Пазнейшыя Акафісты, і асабліва сучасныя, не такія паэтычныя, самабытныя, у іх больш кампілятыўнасці, пераймання старажытнай формы.

У наш час вернікі вельмі любяць і шчыра чытаюць і спяваюць у цэрквах і дома славянскі тэкст Акафіста Багародзіцы ("Акафист Благовещению": "Взбранной Воеводе победительная...: Радуйся, Еюже радость возсияет; Радуйся, Еюже клятва исчезнет; Радуйся, падшаго Адама воззвание; Радуйся, слез Евиных избавление... Радуйся, Невесто Неневестная"). Беларускі варыянт гэтага Акафіста яшчэ чакае свайго перакладчыка. Гэта вельмі адказная справа, яна патрабуе не толькі філалагічных ведаў і паэтычнага таленту, але і музыкальнасці, адчування рытмікі старажытных распеваў. Так што ў беларускіх перакладчыкаў ёсць для адолення цудоўна-прыгожая вяршыня. Можа б, паспрабавалі паэты нашы, напрыклад, Алесь Разанаў, ці Алег Бембель, ці хто з маладзейшых? А прадоўжыць справу можна перакладам Акафістаў беларускім святым, асабліва праслаўленым Жыровіцкай і Мінскай іконам Божае Маці. Вядома, справа складаная і патрабуе часу, але распачынаць трэба. Гэта было б і пэўным укладам у разуменне старажытных тэкстаў, духоўных памкненняў нашых продкаў. Думаецца, быў бы плён і для агульнага развіцця нашай мовы, літаратуры, як сталася гэта праз стварэнне царкоўнаславянскіх тэкстаў Акафістаў для рускай мовы.

Але вернемся да Акафіста Віленскім мучанікам. Малебен з Акафістам служыць настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора, мітрафорны протаіерэй а. Георгій Латушка. У аснову тэксту Малебна пакладзены пераклад, зроблены ў Беларускай царкве ў Канадзе і адрэдагаваны мінскім протаіерэем а. Сергіем Гардуном. Акафіст вельмі шчыра спявае хор Брацтва, так малітоўна, чысцютка... Галоўнае — малітоўна, бо гэта не часта ўдаецца сучасным рэгентам і харыстам, якія спяваюць прыгожа, прафесійна, па нотах, але не заўсёды з пранікненнем у малітоўны сэнс тэкстаў. Гэта, вядома ж, залежыць ад веры, шчырасці пачуццяў.

У канцы богаслужэння а. Георгій сказаў неяк вельмі трапныя і глыбокія словы пра Віленскіх мучанікаў, якія ўжо 650 гадоў сваімі пакутамі і смерцю за Хрыста засведчылі Праваслаўе на нашых землях. І гэта гучыць у словах Акафіста: "Радуйцеся, Богаабраныя спаведнікі праваслаўныя ў зямлі Беларуска-Літоўскай! Радуйцеся, няўмоўчныя спавеснікі праўдзівай пабожнасці. Радуйцеся, вялікія падзвіжнікі, ні ў што паставіўшы славу свету гэтага, а Хрыста Бога прыняўшы ўсім вашым сэрцам і ўсёю душою. Радуйцеся, крывёю вашаю засведчыўшы любоў вашу да Госпада Ісуса. Радуйцеся, святыя мучанікі, Антоніе, Іаане і Яўстафіе!"

Летась у Віленскім Свята-Духавым манастыры шырока адзначалася 650-годдзе мучаніцкай смерці Антонія, Іаана і Яўстафія. Урачыстую Літургію правіў патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій ІІ. Былі госці з праваслаўных цэркваў іншых краін. Да гэтага ўрачыстага дня было прымеркавана паломніцтва вернікаў Свята-Петра-Паўлаўскага прыхода г. Мінска і Брацтва. На жаль, не ўсе жадаючыя змаглі паехаць як з Беларусі, так і з Расіі, Украіны і іншых суседніх краін, адкуль паломніцтва ў Вільню было раней традыцыйным. Людзі прыязджалі ў Віленскі праваслаўны Свята-Духаў манастыр на некалькі дзён на пакаянне, прыкладаліся да ягоных святыняў, наведвалі старажытную царкву свяціцеля Мікалая (1345 г.), святой Параскевы-Пятніцы, Успенскі (Прачысценскі) сабор Божай Маці, у які некалі прыходзіў доктар Скарына (яго ж друкарня была на землях брацтва сабора) і іншыя храмы, старыя Еўфрасінеўскія могілкі... Старажытная ж Вільня так многа гаворыць не толькі аб гісторыі, але і аб веры нашых продкаў, іх духоўных скарбах.

Не кожны зараз можа паехаць у Вільню, але прыйсці на Малебен за беларускі народ і Акафіст нашым нябесным апекунам — Тром Віленскім Мучанікам, можна. Богаслужэнне адбываецца кожную сераду а 17-й гадзіне на Нямізе, у Свята-Петра-Паўлаўскім саборы. Асабліва хочацца бачыць тут больш нашай інтэлігенцыі, тых, хто любіць і шануе роднае слова і хоча далучыцца да нашых старажытных духоўных скарбаў. Дзверы храма заўсёды адчынены для ўсіх, трэба толькі ўвайсці і ўважліва прыслухацца. А тады надзеяй, сапраўднай апорай і дапамогай стануць для нас словы Акафіста: "Бачыўшы, як нятленныя вашыя мошчы даруюць усім, хто з вераю прыходзіць, выздараўленне ад хваробаў душы і цела, дзякуем міласэрнаму Богу, што праславіў вас, святыя мучанікі, такою ласкаю і молімся Хрысту, Збавіцелю нашаму: Алілуя!"

**Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ**

ВЕРНІСАЖ















*Малюнкі Марыны ГАРЭЛАВАЙ*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ —** *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП —** *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4275
Нумар падпісаны ў друк 2.4.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1802/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12